# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

23 жніўня 2019 года №34 (1269) 18+




старонка 22

Фота забяспечанае прэс-службай ХК «Дынама-Маладзечна».

# Маладзечанскія дынамаўцы занялі другое месца ў Кубку Салея

## Экс-дырэктар адказаў на пытанні па «Сакавіцы»

старонка 2










ISSN 1991–7155



Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# На пытанні па «Сакавіцы» адказвае былы дырэктар

МАЛАДЗЕЧНА

**У мінулым нумары «РГ» мы пачалі гутарку аб складанай сітуацыі на былой фабрыцы мастацкіх вырабаў, цяпер ЗАТ «Сакавіца».**




Цяпер уваход у будынак «Сакавіцы» апячатаны.

Прадпрыемства належыць Беларускаму фонду культуры. Цяпер яно ў даўгах, усіх работнікаў звольнілі, ідзе разбіральніцтва.

У папярэдняй публікацыі мы паказалі пазіцыю фонду, які называе вінаватым у сітуацыі на фабрыцы апошняга дырэктара **Сяргея Сабалеўскага**. У ліпені выканкам фонду звольніў Сабалеўскага.

Як толькі ў нас атрымалася выйсці з ім на сувязь, былы дырэктар адказаў на пытанні па «Сакавіцы».

**– Як вы ацэньваеце перспектывы фабрыкі? Што трэба, каб яна зноў пачала працаваць?**

– На сёння фабрыка страціла цэлы сезон і далей тоне ў даўгах, абсталяванне распрадаецца.

Пры сённяшнім кіраўніцтве БФК фабрыка памірае, як і пры папярэднім кіраўніцтве фонду, адбываецца распродаж маёмасці, растуць даўгі па падатках. Усё так, як хацела кіраўніцтва БФК – захаваць сваю газету (гаворка пра «Краязнаўчую газету» – заўвага аўтара) і прадаць фабрыку.

Без змены ўласніка і выпрацоўкі выразнай дакладнай стратэгіі развіцця фабрыкі, размовы аб яе перспектыве – увядзенне грамадскай думкі ў зман.

**– Ад зімы ў будынку не было электрычнасці, але фабрыка рыхтавала сувенірную прадукцыю да Еўрапейскіх гульняў і калекцыю адзення да Нацыянальнага фестывалю. Як гэта атрымалася?**

– Для падрыхтоўкі сувенірнай прадукцыі (ручная прадукцыя), распрацоўкі новага дызайну швейнай прадукцыі да будучага сезона, уборкі тэрыторыі, пераафармлення маёмасці ў БТІ, рамонту галоўнага цэха (будаўнікі прывезлі свой генератар) электрычнасць не была патрэбная.

**– Старшыня БФК Тадэвуш Стружэцкі кажа, што ў вас выклікалі хваравітае супраціўленне спробы цікавіцца справамі фабрыкі з боку фонду. Ці лічыце вы, што фонду трэба было прымаць больш удзелу і аказваць больш дапамогі фабрыцы?**

– Фонд ведаў пра ўсё, што адбывалася на фабрыцы. Я шмат разоў прасіў фонд аказаць мне падтрымку ў перамовах з банкам і крэдыторамі. Толькі гэтай зімой адзін раз прыехаў Стружэцкі і паўдзельнічаў у перамовах з нагоды ўключэння электрычнасці. Перамовы скончыліся падпісаннем пагаднення, якое мы не змаглі цалкам выканаць з-за блакады рахункаў фабрыкі.

**Пра няўдзел БФК у справах фабрыкі кажа стан спраў і стан маёмасці, у якім я яе прыняў. Гаспадара не было, поўная разруха і даўгі, даўгі.**

**– Са слоў Стружэцкага, адлічэнні фонду былі нязначныя. На відэа канала «Страна для жизни» вы паказваеце зусім іншыя лічбы. Як можна праверыць сапраўдную суму адлічэнняў за 2018, 2017, 2016 гады?**

– Адлічэнні фонду ў 2018 годзе, у якім фабрыка не працавала ад лютага да чэрвеня, былі больш чым у 2016 і 2017 гадах. Толькі вясной 2019 года па распараджэнні БФК на фірму іх калегі было адгружана прадукцыі на суму каля 4500 рублёў. Грошы, вядома ж, пайшлі на рахунак БФК, і гэта тады, калі нам не хапала ўсяго 1200 рублёў, каб уключыць электрычнасць. У фільме дэманструю дакументы.

**– Фонд абвінавачвае вас у тым, што вы вывезлі частку абсталявання і вялікую частку дакументацыі. Як можна гэта аспрэчыць?**

– Гэта хлусня і маніпуляцыя лічбамі, фактамі. Так званыя сацыятэхнікі, якім былыя дзяржчыноўнікі БФК добра навучаныя. Спроба маніпуляцыі грамадскай думкай і адцягненне ад сапраўдных прычын, ад людской трагедыі калектыву.

Кіраўніцтвам БФК было напісана на мяне і іншых работнікаў фабрыкі мноства даносаў у розныя дзяржорганы. Ад мая мы прайшлі не адну праверку, прадставілі ўсе неабходныя дакументы і далі паказанні. Цяпер нашы адвакаты займаюцца пытаннем паклёпу, у тым ліку і нядаўняй публікацыі ў адным з выданняў.

**– Чаму вы не давалі доступ на прадпрыемства 1, 8, 15 ліпеня для інвентарызацыі?**

– 25 чэрвеня кіраўніцтва БФК незаконна ўварвалася на фабрыку са зменай замкоў, у той час я знаходзіўся на бальнічным, пра што кіраўніцтва БФК ведала, бальнічны быў прадстаўлены. Пазней, 27 чэрвеня, мне даслалі электронны ліст з рашэннем БФК аб маім адхіленні і прызначэнні новага кіраўніка з неабмежаванымі паўнамоцтвамі заднім чыслом – 24 чэрвеня. У гэты ж час адбылася змена майго подпісу на рахунках банка. Мяне па-ціхаму вырашылі прыбраць, як дырэктара, які не дагадзіў.

**– Ці згодныя з тым, што вы адмовіліся ад супрацоўніцтва з аўдытарам, прызначаным фондам? Як так выйшла, што найбольшая дэбіторская запазычанасць фабрыкі – перад вашым прыватным прадпрыемствам «Экаполіс прадукт»? Вы кіравалі і «Сакавіцай», і «Экаполіс прадуктам». Паміж гэтымі фірмамі былі здзелкі, якія могуць быць прызнаныя здзелкамі паміж афіляванымі асобамі. Як здарылася, што ў дзейнасці «Сакавіцы» была задзейнічана ваша прыватная фірма?**

– З гэтым разбіраюцца органы. Усе дакументы я прадставіў, тлумачэнні і паказанні даў. Там усё нармальна з усімі пісьмовымі рашэннямі БФК, аб якіх кіраўніцтва БФК хітра замоўчвае.

**– Што стала прычынай даўгоў перад ФСЗН, падатковай, «Белгазпрамбанкам»?**

– Прынццё незразумелых мне рашэнняў кіраўніцтвам БФК, якія вядуць да намеранага банкруцтва фабрыкі.

**– Ці лічыце вы адказным за развал фабрыкі фонд?**

– Не мне вырашаць аб вінаватасці альбо невінаватасці асоб, кіраўнікоў БФК. Спадзяюся, што дзяржорганы самі разбяруцца. Але кіраўніцтва фонду сваёй безгаспадарлівасцю планамерна набліжала развал фабрыкі.

**Мне ў чэрвені 2018 года адным з кіраўнікоў БФК было прапанавана збанкрутаваць фабрыку да сакавіка 2019 года, так як у яго з'явяцца грошы на яе выкуп. Я адмовіўся і паведаміў як службовая асоба адкрыта ўсяму кіраўніцтву БФК пра гэтую прапанову.**

Да майго здзіўлення, гэтага чалавека не адхілілі ад кіраўніцтва фонду, а ў маі 2019 года гэты чалавек разам з іншымі кіраўнікамі прыехаў на фабрыку і быў прадстаўлены як рэвізор!

Пад прыкрыццём розных прычын кіраўніцтва фонду зацягвала рашэнне аб пераабсталяванні фабрыкі і былі сарваныя перамовы з «Белгазпрамбанкам» аб рэфінансаванні старога доўгу і інвестыцыйнага крэдыту на новае абсталяванне ў маі 2019. Пачатак перамоваў аб пераабсталяванні фабрыкі з «Белгазпрамбанкам» – сакавік-красавік 2018.

Хачу заўважыць, што былая Маладзечанская фабрыка мастацкіх вырабаў – гэта ўжо трэцяя фабрыка са спісу перададзеных бязвыплатна БФК дзяржавай, дзве папярэднія з розных прычын былі абабраныя і распрададзеныя.

**– Ці адчуваеце вы асабістую віну і адказнасць за яе развал?**

– Я адчуваю сваю адказнасць перад працоўным калектывам, перад людзьмі, іх сем'ямі, перад тымі, у каго адабралі мару – жыць і працаваць годна на сучасным прадпрыемстве ў сваёй краіне.

Са свайго боку раблю ўсё магчымае, каб захаваць традыцыі і цудоўных спецыялістаў у Маладзечне. Мы любім тое, што робім, у нашых вырабах жыве наша любоў, таму і прадукцыя наша любімая.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**


Фота wixstatic.com.

Каб сабраць дзіця ў школу, спатрэбіцца не меней за 200 рублёў.

# Колькі каштуе сёлета сабраць дзіця ў школу?

**Перад пачаткам кожнага навучальнага года бацькі задаюцца пытаннем: колькі каштуе сабраць дзіця ў школу?**

«Рэгіянальная газета» спрабуе адказаць на гэта пытанне, а таксама паказаць альтэрнатыву – сабраць дзяцей з экалагічнымі канцылярскімі прыналежнасцямі.

### Спатрэбіцца ад 200 да 800 рублёў

У гэты кошт уваходзіць школьная форма, спартыўная форма, абутак, партфель і канцылярскія прыналежнасці.

**Пры выбары заплечніка рэкамендуюць аддаваць перавагу універсальным мадэлям, якія змогуць праслужыць некалькі гадоў. Цяпер заплечнікі каштуюць ад 16 да 600 рублёў.**

Вучэбная літаратура – спецыяльныя сшыткі для заняткаў па розных дысцыплінах – складаюць значную частку выдаткаў. Контурныя карты, рабочыя сшыткі для замежных моў, сшыткі для лабараторных работ па фізіцы і хіміі, зборнікі задач па матэматыцы каштуюць цяпер **ад 3 рублёў і больш**. Дзённікі па цане **ад 2 рублёў**.

**Цэны на канцылярскія прыналежнасці – сшыткі, алоўкі, ручкі, фарбы, альбомы і іншае – будуць залежаць ад выбару месца пакупкі і колькасці неабходных тавараў. Вы дакладна выдаткуеце не менш за 10 рублёў на канцылярскія дробязі.**

Сабраць дзяўчынак і хлопчыкаў да школы будзе каштаваць прыкладна аднолькава. Бабачкі і гальштукі каштуюць **ад 6 рублёў**. А касцюмы дзелавога стылю разам з сарочкамі – **ад 70 рублёў**. Для дзяўчынак сукенкі каштуюць **ад 20 рублёў**. Штодзённы абутак каштуе **ад 15 рублёў**.

Спартыўныя кеды з красоўкамі каштуюць **ад 25 рублёў**. Спецыялізаваны абутак – буцы або бампы – **ад 40 рублёў і вышэй**. Спартыўная форма камплектам – **ад 7 да 300 рублёў**.

### Экалагічна – гэта даражэй?

Эколагі раяць купляць заплечнікі з тэкстылю.

**Пеналы таксама пажадана браць тэкстыльныя ці драўляныя. Трэба адмовіцца ад пеналаў, якія выраблены з сінтэтычных тканін і матэрыялаў.**

Кошт такіх заплечнікаў і пеналаў не адрозніваецца ад звычайных – ад 35 рублёў за рукзак і ад 2-3 рублёў за пенал.

Канцылярскія тавары лепш выбіраць тыя, што прызначаныя для дзяцей. Аддайце перавагу алоўкам з драўляным корпусам, без лакавага і каляровага пакрыцця. Асабліва каштоўная гэта парада, калі ў вас малое дзіця, якое нярэдка аблізвае і грызе кончык алоўка.

**Ручку для дзяцей малодшага ўзросту можна выбраць з лёгкага суцэльнага драўлянага корпуса.**

Для дзяцей старэйшага ўзросту перавагу варта аддаваць ручкам з трывалага металічнага корпуса са зменай стрыжняў. Ідэальная чарнільная паста павінна быць на воднай аснове.

Маркеры, фламастары і алоўкі-клеі выбірайце з паметкай «non toxic» (не таксічныя). Экалагічныя маркеры можна пазнаць па надпісе «лёгка змываюцца». У гэтым выпадку ў складзе не будуць скарыстаныя таксічныя рэчывы. Экамаркеры і фламастары каштуюць так, як і звычайныя – вы можаце купіць іх менш чым за рубель.

**24 і 25 жніўня пройдзе рэспубліканская акцыя «Адзіны дзень зніжак», да якой далучацца многія крамы па ўсёй краіне. У гэтыя дні можна сабраць дзіця ў школу нашмат танней.**

**Настасся УТКІНА.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 15.08 | 22.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0415 | 2.0566 |
| Еўра | 2.2819 | 2.2810 |
| Злоты, 10 | 5.2444 | 5.2417 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1296 | 3.1056 |
| Грыўня, 100 | 8.0799 | 8.1741 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 14.08 | 21.08 |
| Еўра | 2.2600/2.2880 | 2.2650/2.2850 |
| Долар ЗША | 2.0230/2.0450 | 2.0450/2.0630 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 14.08 | 21.08 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,39 | 19,39 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,10 | 3,95 |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,58 | 7,58 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | 10,00 |
| Карп жывы, 1 кг | – | 4,90 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Селядзец, 1 кг | 3,40 | 3,30 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,50 | 15,60 |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | 1,20 |
| Рыс, 0,8 кг | 2,00 | 2,00 |
| Алей, 1 л | 3,00 | 3,00 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | 4,80 |
| Маянэз, 400 г | 1,45 | 1,45 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | 1,40 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | 1,80 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | 1,50 |
| Агуркі, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Баклажаны, 1 кг | 1,50 | 1,60 |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | 0,80 |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | 0,80 |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | 0,50 |
| Капуста, 1 кг | 0,96 | 1,00 |
| Морква, 1 кг | 1,00 | 0,90 |
| Лісічкі, 500 мл | 1,50 | 1,00 |
| Памідоры, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Перац, 1 кг | 1,60 | 1,60 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,10 | 1,00 |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | 6,50 |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | 5,90 |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | 2,60 |
| Брусніцы, 500 мл | 2,00 | 1,50 |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | 3,90 |
| Грушы, 1 кг | 3,90 | 3,90 |
| Дыня, 1 кг | 1,30 | 1,40 |
| Кавун, 1 кг | 0,69 | 0,59 |
| Персік, 1 кг | – | 3,40 |
| Слівы, 1 кг | 3,50 | 2,30 |
| Чарнасліў, 1 кг | 2,30 | 2,90 |
| Чарніцы, 500 мл | 2,00 | 2,50 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,50 | 1,50 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 15,00 | 15,00 |
| Сала, 1 кг | 12,50 | 12,50 |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | 12,00 |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | 7,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,00 |

## Мужа ўзялі пад варту за тое, што ён парэзаў нажом жончын пашпарт

МАЛАДЗЕЧНА

Спрэчка паміж жонкай-маладзечанкай і мужам-грамадзянінам Турцыі адбылася 6 чэрвеня.

Пра тое, што па вуліцы ў Маладзечне за жанчынай бегае мужчына з нажом, у міліцыю патэлефанавалі адразу некалькі чалавек.

На месцы высветлілася, што 28-гадовы мужчына-грамадзянін Турцыі прыехаў у Маладзечна мірыцца з 24-гадовай жонкай.

Па словах сведкаў, фігурант напаў на жанчыну і стукнуў яе па твары. Пасля вытрас асабістыя рэчы з яе сумачкі і парэзаў нажом пашпарт.

Як распавяла нам афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук**, мужчыну ўзялі пад варту. Узбудзілі крымінальную справу па артыкуле 378 Крымінальнага кодэкса – крадзеж або знішчэнне дакументаў.

– Маладыя людзі пажаніліся ў Турцыі. Жылі там каля года, але адносіны не скላліся, і маладзечанка вярнулася дамоў. З мужам жыць яна не хоча. А для таго, каб аформіць развод, трэба ехаць у Турцыю. Мужчына ж хоча памірыцца і для гэтага прыязджаў у Маладзечна ўжо не раз, – расказала Юлія Крук.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Выглянуў у акно і ўбачыў, што гарыць яго аўтамабіль

ВІЛЕЙКА

Пра тое, што на стаянцы каля шматкватэрнага дома па вуліцы Гарадзішчанскай гарыць аўтамабіль, выратавальнікам паведамілі 14 чэрвеня ў дзевяць раніцы.

– Калі спецыялісты прыехалі на месца, машыну ўжо патушылі. Гэта зрабіў чалавек, які праязджаў міма і ўбачыў узгаранне. Ён выклікаў МНС і пачаў тушыць аўтамабіль сваім вогнетушыцелем. У гэты ж час ў акно выглянуў гаспадар машыны. Ён выбег на вуліцу і далучыўся да тушэння, – распавёў карэспандэнту старшы інспектар нагляду і прафілактыкі **Дзмітры Кляшняк**.

Аўтамабіль загарэўся ззаду, у тым месцы, дзе была разетка, праз якую падключаюць электраабсталяванне для прычэпа.

У выніку згарэла разетка, аплавілася праводка і выгарала невялікая частка бампера.

Верагодная прычына – кароткае замыканне электраправодкі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Сутыкнуліся мотаблок і матацыкл без тэхагляду

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося а 19-й гадзіне ў пятніцу, 16 чэрвеня, паміж Турэц-Баярамі і Цемяніцай, паведамляе абласная міліцыя.

Пенсіянер ехаў на матакультыватары ў накірунку дарогі Маладзечна–Смаргонь. Пры павароце налева ён не саступіў дарогу матацыклісту, які абганяў матаблок. У выніку адбылося сутыкненне, пенсіянер атрымаў цялесныя пашкоджанні.

На месца здарэння прыбылі супрацоўнікі ДАІ і медыкі. Абодва ўдзельнікі аварыі былі дастаўленыя ў бальніцу, адкуль пасля агляду і аказання медыцынскай дапамогі адпушчаныя дадому. Матацыкліст быў у экіпіроўцы, шлеме і з пальчаткамі, а вось яго «жалезны конь» быў без тэхагляду.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

● УВАГА, ВЫШУК!

## Выехаў з працы на ровары і знік

ВАЛОЖЫН



Валожынскі РАУС устанаўлівае месцазнаходжанне зніклага без вестак **Аляксея Сцяпанавіча Пратасевіча**.

Мужчына знік 16 чэрвеня. Апошні раз яго бачылі каля 19 гадзін. Ён выехаў на ровары з працы ў кірунку дома, аднак да гэтага часу да месца жыхарства не прыбыў і пра яго месцазнаходжанне нічога невядома.

**Прыкметы**: на выгляд 35 гадоў, рост каля 170 см, валасы светла-русыя, кароткая стрыжка, голас глухі, гаворка ясная, ходзіць хутка, памер абутку 42-43.

Пры сабе мае дарожны ровар тыпу «Бусел» сіняга колеру з кошыкам на багажніку, мабільны тэлефон.

Грамадзяне, якія ведаюць што-небудзь пра месцазнаходжанне Аляксея Пратасевіча, тэлефануйце на нумары: **(8-01772) 5-53-02, (8-01772) 5-40-21, (8-029) 685-53-02, (8-029) 827-66-40, (8-029) 152-22-98.**

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



Паход у грыбы для жыхара Людвінова скончыўся трагічна.

# Вясковец ішоў з грыбоў і патануў

ВІЛЕЙКА

**Трагічнае здарэнне адбылося на Вілейшчыне, у вёсцы Людвінова.**

У панядзелак, 12 чэрвеня, 71-гадовы мясцовы жыхар ішоў з лесу.

Мужчына пераходзіў раку па мосце. Мост, па словах спецыялістаў-выратавальнікаў, даўно меў патрэбу ў рамонце.

У нейкі момант нага вяскоўца захрасла ў мосце, а цела звалілася ў раку, распавялі ў Вілейскай выратавальнай станцыі.

Апынуўшыся ў такім стане, вясковец не змог выбрацца і захлынуўся.

Выратавальнікам паведамілі пра здарэнне з Вілейскага РАУС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На пажары загінуў мужчына

СМАРГОНЬ

Пажар здарыўся ў вёсцы Шчопаны, што ў Сольскім сельсавеце.

Пра яго выратавальнікам паведамілі пасля 17:00. Гарэў жылы дом. Агонь знішчыў дыван на кухні і частку падлогі.

Загінуў 59-гадовы гаспадар дома.

**Паводле сайта МНС.**

## Невядомыя збілі сабаку і ўкінулі яго ў вулічную прыбіральню

ВІЛЕЙКА

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» паведаміў чытач валанцёр з Вілейкі **Аляксей Сюдак**.

Па словах Аляксея, першапачаткова сабаку заўважылі ў Даўгінаве. Ён прыйшоў у вёску разам з будслаўскай пілігрымкай.

Валанцёры праз інтэрнэт шукалі новых ці старых гаспадароў.

17 чэрвеня Аляксею напісала жыхарка Даўгінава **Наталля Млечка**, што нехта збіў сабаку і ўкінуў яго ў вулічную прыбіральню, што на вуліцы Савецкай.

Аляксей патэлефанаваў на 101. Вілейскія выратавальнікі дасталі сабаку з прыбіральні.

– Я вельмі ўдзячны супрацоўніку Алегу і яго калегам за дапамогу, – кажа Аляксей.

Сабака быў моцна збіты. Вілейскія валанцёры забралі сабаку і адвезлі яго да ветэрынара ў Маладзечна. Яму паставілі капельніцу, зрабілі патрэбныя ін'екцыі, апрацавалі раны.

Цяпер Багдан, так назвалі сабаку, на пераТрымцы ў Вілейцы.

Увечары 19 чэрвеня валанцёры звярнуліся праз анлайн-пляцоўку з просьбай ахвяраваць грошы на лячэнне і ўтрыманне сабакі. І за ноч сабралі неабходную суму – дзвесце рублёў.

Вілейскія валанцёры шчыра дзякуюць усім неабыякавым людзям.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## За мінулыя выхадныя – каля трохсот правапарушэнняў

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 16 да 18 чэрвеня міліцыя Маладзечна правяла спецыяльны комплекс мерапрыемстваў «Правапарадак». За два дні выявілі каля трохсот адміністрацыйных правапарушэнняў.

Большасць правапарушэнняў звязаная з распіваннем спіртных напояў у грамадскіх месцах, а таксама са з'яўленнем грамадзян у стане алкагольнага ап'янення. За гэта склалі 75 пратаколаў.

Упадабаныя месцы для выпіўкі ў маладзечанцаў – двары жылых дамоў і запраўкі. Збіраюцца кампаніі і ў спальных мікрараёнах горада.

Нецвярозыя людзі шумяць, б'юцца, а на заўвагі жыхароў праяўляюць агрэсію.

Як паказвае практыка, практычна кожныя выхадныя на лінію 102 паступаюць паведамленні ад работнікаў заправак аб супрацьпраўных дзеяннях наведнікаў. Таму такія аб'екты міліцыянеры парадку ўжо даўно ўзялі пад асаблівы кантроль. Радзей выбіраюць гарадскія паркі і скверы.

У адной з кампаній дарослыя частавалі моцнымі напоямі непаўналетніх. Усіх вінаватых прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці.

За дробнае хуліганства ў поле зроку міліцыі трапіў дзясятак чалавек. У большасці выпадкаў фігурантаў заспелі, калі тыя спраўлялі патрэбу ва неўстаноўленым месцы. Як правіла, паблізу забаўляльных устаноў у цёмны час сутак. У дачыненні да парушальнікаў склалі пратаколы па арт. 17.1 КаАП Рэспублікі Беларусь.

Актуальнай для Маладзечанскага раёна застаецца праблема траўматызму на аб'ектах чыгуначнага транспарту. За пераход пуці ва неўсталяваным месцы ў дачыненні да пяці грамадзян склалі пратаколы, правялі прафілактычныя гутаркі.

Міліцыя ва ўзмоцненым рэжыме кантралявала дарожную бяспеку. За выхадныя ДАІ выявіла больш за 180 правапарушэнняў. Дарожная міліцыя правярала наяўнасць тэхагляду, дзіцячых аўтакрэслаў. Злавілі двух п'яных кіроўцаў і восем бяспраўнікаў.

Міліцыянеры праверылі таксама па месцы жыхарства больш за 230 раней судзімых. Не ўсе з іх знаходзіліся ў патрэбны час дома. Некаторыя былі нецвярозыя.

**Паводле прэс-службы Маладзечанскага РАУС.**

# Запішыся беларусам!



Фота serjbyru

**У Беларусі ад 4 да 30 кастрычніка пройдзе перапіс насельніцтва. Адным з пытанняў анкеты будзе пытанне пра нацыянальнасць.**

Асацыяцыя выдаўцоў рэгіянальнай прэсы «Аб'яднаныя МасМеды», у якую ўваходзіць «Рэгіянальная газета», заклікае тых, каму неабыякавы лёс нашай краіны, запісвацца беларусамі.

Нацыянальнасць – не пытанне крыві, нацыянальнасць – твая самаідэнтыфікацыя. Можна не мець продкаў-беларусаў, можна быць мусульманінам, можна быць цемнаскурым, але адчуваць сябе беларусам. Калі ты ім пачуваешся, ты маеш права запісаць сябе ім.

### Вікторыя Анохава-Жураўлёва, шматдзетная маці

«Я выхоўваю 13 дзяцей, і для мяне вельмі важна, каб мае дзеці ведалі, дзе іх карані, якую яны маюць спадчыну. Я раблю многа, каб разумелі, што яны беларусы. Асаблівa важна гэта ва ўмовах, калі суседняя дзяржава вельмі актыўна спрабуе перакanaць нас, што мы не з'яўляемся асобным народам».

### Марына Шукюрава (Руся), спявачка

«Я нарадзілася ў Беларусі, але ў мяне зусім няма беларускіх каранёў. Тым не менш я лічу сябе дзіцем менавіта гэтай культурнай калыскі, вывучаю беларускую мову, беларускія песні. Менавіта таму я, намагаючыся адчуць сябе, існую, вывучаю беларускую мову і карыстаюся дзвюма мовамі ў жыцці».

### Андрусь Такінданг, мастак, музыкант

«Калі вы ўсведамляеце сябе беларусамі, калі вы хочаце даць шанец беларускай мове, то давайце яго: запісвайцеся беларусамі, кажыце, што вы размаўляеце па-беларуску. І, натуральна, размаўляйце па-беларуску!».

### Ібрагім Цынкевіч, вернік

«Я мусульманін. З часоў Вялікага Княства Літоўскага іслам жыў поруч з іншымі канфесіямі. І сёння я шчаслівы быць беларусам і свабодна вызнаваць сваю рэлігію. Запісвайся ў беларусы!».

### Яўген Філенка, праграміст

«Я нарадзіўся ў Расіі. Але кім я ёсць, калі мае дачка і жонка беларускі, калі неба і мова любімая – беларускія. Кім я ёсць, калі ўсё, што я люблю, – гэта Беларусь?»

### Адам Глобус, пісьменнік, мастак

«Я – беларус. Я – не паляк, хоць большасць маёй сям'і ходзіць у касцёлы, я – не ўкраінец, хоць люблю сказаць: «Язык да Кіева давядзе», я – не рускі, хоць бацькі пахрысцілі мяне ў праваслаўнай царкве. Я – беларус. Так думаю, так лічу і так кажу: я – беларус!».

### Дар'я Альперн-Каткоўкая, юрыст, блогер

«Я нарадзілася ў Мінску, жыла ў некалькіх краінах Еўропы: на Балканах. А цяпер я жыву ў Ізраілі. Я заўсёды памятаю, хто я і адкуль. І таму, канешне, я запішуся беларускай».

### Ларыса Сапач, настаўніца

«Я працую ў школе з моладдзю. І імкнуся, каб вучні былі беларусамі. Мы з імі спяваем, танцуем, чытаем, выступаем па-беларуску. І я хачу бачыць сваіх вучняў беларусамі. Як і вас. Запісвайцеся беларусамі!».

**Асацыяцыя выдаўцоў рэгіянальнай прэсы «Аб'яднаныя МасМеды».**

Глядзіце **відэа** на **rh.by!** Адсканаваўшы QR-код або перайдзіце па спасылцы: **http://bit.ly/belarusam**



## Колькі аленяў і ласёў у лясах Маладзечаншчыны

**МАЛАДЗЕЧНА**

**«Нямала», – кажуць спецыялісты Маладзечанскага лягаса.**

Пару год таму лягас выпусціў аленяў у паляўнічай гаспадарцы ў Верадове. За гэты час жывёл пабольшала. Але з тэрыторыі паляўнічай гаспадаркі яны асабліва не сыходзяць. Адчуваюць дом, кажуць спецыялісты.

Ласёў сёння ў маладзечанскіх лясах каля сотні. А аленяў – каля 70.

А не так даўно ў сваю паляўнічую гаспадарку аленяў выпусціла **Маладзечанская раённая структура Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў.**

Тут карэспандэнту распавялі, што арганізацыя выйграла тэндар і за дзяржаўныя грошы аленяў закупілі яшчэ зімой у Нацыянальным парку «Прыпяцкі». Гэта рабілася ў рамках дзяржаўнай праграмы «Беларускі лес».

Набылі двух дарослых самцоў, 16 дарослых самак і 16 сягалетак – маладых аленяў, якія нарадзіліся сёлета.

Частку жывёл прывезлі ў студзені, частку – у лютым. Арандавалі зямлю ў Красненскім лясніцтве і пабудавалі там вальер плошчай дзесяць гектараў. Вясной у вальеры атрымаўся прыплод – 11 аленяў. Адна самка патанула. У выніку атрымалася 44 алені, якіх выпусцілі ў лес 6 жніўня.

– Для выпуску збіраецца камісія – прадстаўнікі нашага таварыства, лягас, ветэрынарная служба, ахова прыроды, прадстаўнікі Мінскай лесапаркавай гаспадаркі, – расказвае дырэктар арганізацыі **Дзмітры Бобрык**.

Спецыялісты агледзелі аленяў. Потым адну сцяну вальера прыбралі, і жывёлы пайшлі ў лес.

Па словах дырэктара, у дзікай прыродзе аленяў падкормліваюць толькі зімой. У вальеры ж жывёл кармілі заўсёды.

Вазілі сена, збожжа, адходы і некандыцыю гародніны ад фермераў-спонсараў. На тэрыторыі вальера быў лясны вадаём, сажалка, куды алені хадзілі на вадапой.

Збожжа для жывёл на тэрыторыі вальера насыпаюць і цяпер.

– Робім гэта для таго, каб алені больш прывыклі да мясцовасці, не сыходзілі далёка і «адчувалі дом». Тым больш, што цяпер у лесе шмат трывожных фактараў. Тыя ж грыбнікі могуць напалохаць, – растлумачыў Дзмітры Бобрык.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-80, 1983 г.в., на запчасткі. Т. (8-029) 8506435.*

• МАЗ 54322 тягач з 2-восевым прычэпам, даўжыня 12,5 м. Нядорага. Т. Вэлком/А1 (8-029) 9131706.

• Мазда 323F, 1993 г.в., 1,6 бензін. Т. (8-029) 8610280.*

• Сітраэн-Ксара,1999 г.в., 1,9 дызель, купэ, цана 4 000. Т. (8-033) 6808429.*

• Форд-Сіера, 1987 г.в., 2,0 бензін, на запчасткі. Т. (8-029) 5062734.

• Форд-Ф'южн, 2005 г.в., 1,4Б, поўны электрапакет, кандыцыянер, ГУР, у выдатным стане, зварка не патрабуецца, 8 100 рублёў.

• Форд-Эскорт, 1991 г.в., 1,4 бензін, выдатны стан, у зварачных работах не мае патрэбы, тэхагляд да снежня, праходзіць без праблем, нічога рабіць не трэба. 1500 рублёў. Т. (8-029) 8632241.

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі Форд-Эскорт, 1996 г.в., універсал, інжэктар, усе дзверы. Т. (8-033) 3091535.

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

• Аўто. Можна аварыйны! Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 7555455, (8-029) 1563334.*

• Матацыклы старыя і запчасткі К-750, Ява, Іж, Мінск. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў п. Беразінскае Маладзечанскага раёна. Т. (8-0176) 725959, Вэлком (8-029) 1171154.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Магчымы абмен на 3-пакаёвую. Т. (8-029) 2716509.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1986 г.в., 64/40/9 кв. м, з рамонтам. Тэрмінова! 80 тыс. рублёў, торг. Т. (8-029) 6888111.*

• 3-пакаёвая кватэра. Тэрмінова! Падрабязнасці па тэлефонах (8-029) 6888111, (8-029) 6333777.*

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом драўляны ў Смаргоні, 500 м ад чыгуначнага вакзала, участак 19 сотак, водаправод, пячное ацяпленне. Т. (8-029) 5912004.*

• Дом на вываз, 11х10, у аграгарадку Крывічы Мядзельскага раёна. Т. (8-01797)43397.

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна Іжанскага с/с. Цана дагаворная. Т. (8-033) 3513656.

• Дом у в.Грыцкі Вілейскага раёна, 7 км ад Вілейкі, участак зямлі 0,25 га. Недалёка вадасховішча, лес. Т. (8-029) 3262613.*

• Дом у Вілейцы з усімі выгодамі. Т. (8-029) 7609173.*

• Дом у Маладзечне на вул. Велікасельскай, 0,1 га, газ, вада. Т. (8-033) 6393440.*

• Дом, 15 км ад Вілейкі. Т. (8-029) 8598747.*

• Участак у в. Порса. 30 сотак. Побач газ. Т. (8-029) 1214671.*

### КУПЛЮ

• Дом. Т. (8-029) 6511477.*

### ЗДАМ

• Гараж у Маладзечне па вул. Міру, 6х9. Т. (8-029) 5753932.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Абітурыент. Біялогія. Хімія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважин) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, маніtoраў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-40 з дакументамі. У камплекце: культыватар, бацвіннязбівалка, адвал, аднавосевы самаробны прычэп. Т. (8-029) 5081355.

**Музінструмент**

• Гармонікі вытворчасці Маладзечна. Адзін для дарослых і адзін для дзяцей. Т. (8-029) 6348540.*

• Піяніна «Беларусь», чорнае, у добрым стане. Т. (8-029) 8616784.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Цялушка цельная ад высокаўдойнай каровы. Т. (8-0176) 525030, (8-029) 1946909, (8-029) 1275060.*

**Іншае**

• Сена. Т. Вэлком (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### АДДАМ

• Шчанят (помесь, сярэдняга росту) у клапатлівыя рукі. Т. (8-044) 7438947.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Даярка. Усе пытанні па тэлефоне. ІП «Дзве стыхіі» УНП 690644985. Т. (8-029) 1238596.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю працу дома. Т. (8-029) 5019550.*

# «Рэгіянальная газета» зладзіла вечарынку ў стылі мафіі на вуліцы стрыт-фуда

МАЛАДЗЕЧНА

**16 жніўня ўвечары вуліца стрыт-фуда выглядала дзіўнавата. Паміж кавярняў лёталі купкі людзей з аркушамі паперы.**


Фота Настасі УТКІНАЙ.

Актывісты з Маладзечна і Вілейкі падчас квэсту.


Фатограф Арына Тархан.


Сэлфі на вуліцы стрыт-фуда.


Сябар «Рэгіянальнай газеты» Васіль Таркан.

А тлумачылася гэты тым, што ў пятнічны жнівеньскі вечар «Рэгіянальная газета» ладзіла тут мерапрыемства. Намеснік галоўнага рэдактара **Зоя Хруцкая** падрыхтавала квэст у стылі мафіі «Разбудзі ў сабе Шэрлака».

Пра актыўнасць мы паведамлялі ў сваіх суполках і на сайце, таму народу сабралася дастаткова. У большасці гэта былі маладзечанцы. А два ўдзельнікі прыехалі з Вілейкі. Усе падзяліліся на чатыры каманды і рушылі выконваць заданні.

Грэлі паперу над свечкай, прасвечвалі яе ультрафіялетам... На кожнай станцыі ўключалі ўсю сваю кемлівасць, каб правільна выканаць заданне, даведацца патрэбнае слова або свой далейшы маршрут.

У выніку перамагла аб'яднаная каманда «Маладзечна-Вілейка». Усе каманды атрымалі наборы беларускамоўных картаў для гульні ў мафію. Скарыстаць іх можна было адразу ў гэты ж вечар на вуліцы стрыт-фуда. Што і зрабіла аб'яднаная каманда «Рэгіянальнай газеты» і яе аматараў.

Былі таксама ўзнагароды за лепшыя касцюмы ў стылі мафіі.

У рамках квэста актывісты дабрачыннай арганізацыі «Бумеранг дабра» размясцілі скрыні для збору ахвяраванняў. Сабраныя грошы пойдуць на лячэнне дзесяцігадовага хлопчыка **Антона** з Маладзечна.

Удзельнікі таксама маглі пазнаёміцца з фотавыставай маладзечанкі **Арыны Тархан**. Выстава распавядала пра жыццё людзей з інваліднасцю. Аўтар выставы і летась у лістападзе ўдзельнічала ў фотамарафоне «Рэгіянальнай газеты» і перамагла.

– Было цудоўна! – падзялілася ўражаннямі актывістка, арганізатар вуліцы стрыт-фуда **Ганна Холад**. – Адразу я не планавала ўдзельнічаць у квэсце. Але проста не было сіл стаяць і глядзець, як гэта робяць іншыя.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## «Рэгіянальная газета» знайшла маладзечанку, якую шукала сяброўка з Якуціі

МАЛАДЗЕЧНА

**У №33 за 16 жніўня мы пісалі, што жыхарка Якуцка Валянціна Няпомняшчых па просьбе сваёй знаёмай шукае маладзечанку Ганну Ціханаўну Канапельку.**

Дзякуючы публікацыі і неабыякавасці нашых чытачоў Ганна Ціханаўна знайшлася.

Днямі па ўказаным тэлефоне да нас у рэдакцыю патэлефанавала жыхарка Маладзечна **Ірына Ціханаўна Жаўняровіч (Канапелька)**.

> **– 16 жніўня ў вашай газеце быў артыкул пра тое, што жыхарка Якуцка шукае сяброўку. Ганна Ціханаўна Канапелька – мая родная сястра.**

Яна сапраўды доўга падтрымлівала сувязь са сваёй якуцкай сяброўкай **Зояй Максімавай**. А потым чамусьці перастала даваньвацца, – расказала спадарыня Ірына. – А газету з артыкулам мне знаёмы прынёс са словамі: «Глянь, тваю Ганначку шукаюць».

> **Жанчына распавяла, што яе сястра цяпер у вёсцы, і паведаміла, па якім нумары сяброўкі могуць звязацца. Нумар тэлефона мы перадалі ў Якуцк.**

19 жніўня Валянціна Няпомняшчых з Якуцка напісала нам, што сяброўкі нарэшце стэлефанаваліся і цяпер будуць на сувязі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Беларусь 1

**6.25** «Існасць».

**6.50, 21.45** Х/ф **«БЕГЛЯНКА».**

**8.25** Кулинарная дипломатия.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Маршрут построен».

**9.50** «Здоровье».

**10.45** «Дача» [СТ].

**11.25** «Истории спасения».

**12.10** «Код нации». Хроникально-документальный телефилм.

**13.20** Х/ф **«ОТПУСК ЛЕТОМ».**

**15.15** «Краіна».

**15.45** Х/ф **«РОДСТВЕННЫЕ СВЯЗИ».**

**20.00** «Макаёнка, 9». Субботнее шоу.

**21.00** «Панорама».

**1.00** «День спорта».

### Беларусь 2

**7.00** Т/с **«СТОМАТОЛОГ».**

**8.50, 21.55** «Телебарометр».

**8.55** Х/ф **«МАДАГАСКАР 3».**

**10.20** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**11.15** «Кто я?».

**11.35** «Копейка в копейку».

**12.10** «Камень, ножницы, бумага».

**12.45** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.

**13.40** «Свадебный размер». Реалити-шоу.

**14.35** «Когда мы дома». Скетчком.

**15.05** Х/ф **«ЗНАКОМСТВО С ФАКЕРАМИ 2».**

**16.45** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.40** «До свидания». Реалити-шоу.

**18.30** Х/ф **«ДОБРОЕ УТРО».**

**20.15** Фантастический экшн «Призрак в доспехах».

**22.00** «Спортлото 6 из 49», КЕНО.

**22.05** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР: ГЕНЕЗИС».**

**0.05** «Сыграй меня, если сможешь».

### Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».

**8.00, 14.50, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 15.10, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Хто смяецца апошнім». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Жывая культура». Неглюбская народная тэкстыльная традыцыя. Неглюбскія ручнікі (в. Неглюбка, Веткаўскі раён, Гомельская вобласць).

**10.25** «Беларуская кухня». Квас на мясе або грыбах з ільняным насеннем.

**10.55** «Спявае Беларусь». Фальклорное песеннае шоу.

**11.45** «12 крэслаў». Мастацкі фільм [СТ].

**14.25** «Навукаманія».

**15.15** «Правілы геймера». Мастацкі фільм [СТ].

**17.05** «Славянскі базар у Віцебску-2017». Ансамбль «Сябры».

**18.50** «Пасля кірмашу». Мастацкі фільм [СТ].

**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Аляксандр Карлюкевіч.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Анастасія Слуцкая». Мастацкі фільм [СТ].

**22.40** «Якуб Наркевіч-Ёдка. Утаймавальнік маланак, ці «Электрычны чалавек». Гісторыка-біяграфічны фільм.

**23.30** «Архітэктура Беларусі».

### ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** «Играй, гармонь любимая!».

**8.00** Премьера. «Женя Белоусов. Такое короткое лето».

**9.10** «Честное слово» с Юрием Николаевым.

**10.00** Х/ф **«САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ».**

**11.30** «Анна Герман. Дом любви и солнца».

**12.30** Т/с **«ЧУЖАЯ ЖЕНЩИНА».**

**16.20** «Кто хочет стать миллионером» с Дмитрием Дибровым.

**17.50** «Сегодня вечером».

**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.10** Х/ф **«БИТВА ЗА СЕВАСТОПОЛЬ».**

**0.50** «Про любовь».

### СТВ

**6.00** «Легенды СССР».

**7.40** «Анфас».

**8.00** «Самая полезная программа».

**8.50, 22.55** Документальный проект.

**9.40** «Минск и минчане».

**10.15** «Центральный регион».

**10.45, 13.40, 16.40** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**19.55** «СТВ-спорт».

**20.05** «Засекреченные списки».

**0.15** Т/с **«БОЕЦ».**

### Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10, 7.20, 4.15** Мультфильмы.

**6.20** «Союзники».

**6.50** «Такие разные».

**8.25** Д/ф «ПРЕЗИДЕНТ. 65».

**9.25** «Рожденные в СССР. Песняры».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.15** «Как в ресторане».

**10.45** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. МЫ НАШ, МЫ НОВЫЙ...».**

**13.40, 16.15** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. МИРНОЕ ЛЕТО 21-ГО ГОДА».**

**17.00, 19.15** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. ВОСТОЧНЫЙ РУБЕЖ».**

**20.25** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. КРАСНЫЙ ПЕСОК».**

**21.50** Х/ф **«ОБРАТНОЙ ДОРОГИ НЕТ».**

**2.00** Х/ф **«ЗАБЫТАЯ МЕЛОДИЯ ДЛЯ ФЛЕЙТЫ».**

### НТВ-Беларусь

**6.20** «Астропрогноз».

**6.30** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**7.00** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.30** Их нравы.

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by».

**8.50** «Врачебные тайны плюс».

**9.25** «Города Беларуси».

**10.25** Главная дорога.

**11.10** «Еда живая и мёртвая».

**12.05** Квартирный вопрос.

**13.10** «Поедем, поедим!».

**13.55** Т/с **«МЕНТОВСКИЕ ВОЙНЫ».**

**16.25** «Следствие вели…».

**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.

**20.40** Т/с **«ШЕФ».**

**0.10** Х/ф **«КОНТРАКТ НА ЛЮБОВЬ».**

### БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** «Утро Беларуси».

**10.00** «Сто к одному».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Пятеро на одного».

**12.15** Х/ф **«РИФМУЕТСЯ С ЛЮБОВЬЮ».**

**14.15** Х/ф **«ВОТ ЭТО ЛЮБОВЬ!».**

**16.15** Х/ф **«ЗАКЛЯТЫЕ ПОДРУГИ».**

**19.45** «Плюс минус».

**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.

**20.55** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.40** Х/ф **«СВЯТАЯ ЛОЖЬ».**

## кіно і спорт

**TV1000**

**6.10, 18.00** Власть страха. **8.35** Поймай толстуху, если сможешь. **11.00** 13-й район. **12.40** Код Да Винчи. **15.25** Ангелы и Демоны. **20.10** Двухсотлетний человек. **22.40** Район №9. **0.45** Братья Гримм. **2.50** Мой мальчик. **4.25** Без изъяна.

**TV1000 ACTION**

**7.05** Человек-паук. **9.20** К-9: Собачья работа. **11.10** Тюряга. **13.15** Транссибирский экспресс. **15.20** Ворон. **17.25** Другой мир 2: Эволюция. **19.25** Эверли. **21.10** Человек-паук 2. **23.30** Сезон убийц. **1.10** Страховщик. **3.05** Мачете убивает.

**TV1000 РУССКОЕ КИНО**

**7.30** Свадьба. **9.55** Ты у меня одна. **12.05** Вор. **13.55** Дубровский. **16.20** Время Первых. **19.00** Как я стал русским. **20.45** День выборов 2. **22.45** Затмение. **0.10** Тариф Новогодний. **1.50** 22 минуты. **3.30** Первый после бога.

**ТВ3**

**6.00** Мультфильмы. **10.45, 11.45, 12.30** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 13.30** Х/ф **«НАЧАЛО». 16.30** Х/ф **«ВАН ХЕЛЬСИНГ». 19.00** Х/ф **«ТЁМНАЯ БАШНЯ». 20.45** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ МИЛЯ». 0.30** Х/ф **«КРОВЬ: ПОСЛЕДНИЙ ВАМПИР». 2.15** Х/ф **«КАРМА». 3.45, 4.15, 4.45, 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

**ФЕНИКС**

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ЗА ВСЕ ТЕБЯ БЛАГОДАРЮ 2». 12.00, 13.00** Т/с **«ЖУКОВ». 14.00, 15.00** Т/с **«МАМА – ДЕТЕКТИВ». 20.00, 21.00** Т/с **«Я ТЕБЯ НИКОМУ НЕ ОТДАМ». 22.00, 23.00** Т/с **«СПАСИТЕ НАШИ ДУШИ». 2.00, 3.00** Т/с **«ПЕТЕРБУРГСКИЕ ТАЙНЫ». 4.00, 5.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 6.00, 7.00** Т/с **«ПРИИСК 2».**

**КИНОКОМЕДИЯ**

**0.40** Х/ф **«УКРОЩЕНИЕ СТРОПТИВОГО». 2.40** Х/ф **«ИГРА». 4.25** Х/ф **«БЛЕФ». 6.40** Х/ф **«ОДНАЖДЫ ПРЕСТУПИВ ЗАКОН». 8.30** Х/ф **«РЫБКА ПО ИМЕНИ ВАНДА». 10.35** Х/ф **«УБОЙНЫЙ ФУТБОЛ». 12.35** Х/ф **«СМЕРТЬ НА ПОХОРОНАХ». 14.20** Х/ф **«МИССИЯ: НЕАДЕКВАТНА». 16.05** Х/ф **«ДОСТАТЬ КОРОТЫШКУ». 18.05** Х/ф **«К ЧЕРТУ НА РОГА». 19.45** Х/ф **«СНОВА В ШКОЛУ». 21.40** Х/ф **«ЗАЧЕТНЫЙ ПРЕПОД».**

**КИНОСЕРИЯ**

**0.00, 0.50** Х/ф **«ЧЕРНЫЙ СПИСОК». 1.40, 2.35, 4.00, 5.00, 6.00, 7.00, 8.05, 9.00, 10.00, 10.55, 23.45** Х/ф **«БАЛАБОЛ 2». 11.55** Х/ф **«ЯЛТА-45: СЕРИЯ 1». 12.50** Х/ф **«ЯЛТА-45: СЕРИЯ 2». 13.50** Х/ф **«ЯЛТА-45: СЕРИЯ 3». 14.50** Х/ф **«ЯЛТА-45: СЕРИЯ 4». 15.45, 16.40, 17.40, 18.40, 19.45, 20.45, 21.45, 22.40** Криминал «Неуловимые».

**ВТВ**

**6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 4.00** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **9.20** Мультфильмы «МАРИН И ЕГО ДРУЗЬЯ». **9.45** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **10.05, 16.25** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.40** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **11.15** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **12.15** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.40** Х/ф **«ЛЕГЕНДЫ НОЧНЫХ СТРАЖЕЙ». 16.55, 18.55, 21.55, 23.25** Прогноз погоды на неделю. **17.00** Х/ф **«СОЛТ». 19.00** Фильм-катастрофа «2012». **22.00, 23.30** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **1.25** Скетч-шоу «МОСГОРСМЕХ». **3.10** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.50** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

**БЕЛАРУСЬ 5**

**7.00** Спорт-микс. **7.10, 21.20** Легкая атлетика. Чемпионат Беларуси. **9.45** Мир английской премьер-лиги. **10.15** Хоккей. Лига Чемпионов. Юность-Минск (Беларусь) – Лозанна (Швейцария). **12.15** Большой спорт. **13.00** Дзюдо. Чемпионат мира. Полуфиналы. Финалы. **14.30** Футбол. Чемпионат Англии. Саутгемптон – Манчестер Юнайтед. **16.20** Фактор силы. **16.50** Спорт-центр. **18.50** Тренировочный день. **19.20** Футбол. Чемпионат Англии. Бернли – Ливерпуль. В перерыве – Спорт-центр.

**EUROSPORT**

**0.00, 2.15, 4.00, 6.00, 7.00, 9.30, 10.30, 13.00, 14.00** Теннис. US Open. Пятый день. **2.00, 22.00** Теннис. «Гейм, Шетт и Матс». **8.00, 11.30, 15.00** Велоспорт. «Вуэльта». 7-й этап. **10.20, 12.50** Волейбол. Чемпионат Европы. Женщины. **16.00** Велоспорт. «Вуэльта». 8-й этап. **18.45** Велоспорт. «Вуэльта»-экстра. **19.05, 20.00, 22.15** Теннис. US Open. Шестой день.

## хобі і адпачынак

**ДРАЙВ**

**6.00** Стальные парни. **6.45** 112 Пожарные в действии I. **7.30, 9.35, 11.55, 15.15, 17.45, 22.05, 0.05, 3.15** Итоговые новости. **7.50** Тест на «Драйве». **8.15** Комплектация. **8.50** Тайный покупатель. **9.05, 0.20, 1.35** Под микроскопом. **9.20, 10.35, 10.55, 0.35, 1.50** Мир танков. **9.50, 0.50, 2.05** Сити тестер. **10.25, 1.20, 2.35** Вторичка. **11.10, 2.50** Это Родина твоя. **11.40** Все включено. **12.10** Мото. Вторые руки. **12.40, 12.55, 13.05, 13.20, 13.35** Мото: Вторые руки. **13.50, 14.20, 14.45, 15.30, 15.55, 16.25, 16.50, 17.20, 18.05, 18.30, 19.00** Мотогараж. **19.30, 19.55, 22.35, 23.00** Гаражная команда. **20.20, 23.25, 4.20** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **20.50, 23.50, 4.45** Школа внедорожного вождения. **21.05, 5.00** В поисках мотоприключений. **21.35, 5.30** Кузовной ремонт. **22.20** Авто: вторые руки. **3.30** АВТОбиография.

**EXPLORE**

**6.00, 6.45** Переделка старья. **7.35, 8.05, 8.30, 0.55, 1.25, 1.55** Гараж: Последний приют. **8.55, 9.40, 10.30, 11.15, 12.05, 12.50** Австралийские золотоискатели. **13.40, 14.30** Австралийские охотники на лобстеров. **15.20, 16.05** Поисковая команда в Австралии. **16.50** Адские грузовики. **17.40** Перевозчики поездов. **18.25, 18.50, 19.20** Грузовые войны: Великобритания. **19.45, 20.35, 5.05** Большое рыболовное состязание. **21.25, 22.15** Деревенский дом. **23.00, 0.00** Рэй Донован. **2.25** Танковый биатлон. **3.25, 4.15** Чудовищный карп.

**HISTORY**

**6.00, 7.35, 8.30, 1.45, 2.35, 5.05, 5.55** Запретная история. **7.00** Тайны британских замков. **9.25, 10.15, 3.25, 4.15** Музейные тайны. **11.05, 22.50** День, когда... **12.05, 12.55** Заговор. **13.50** Тридцатилетняя война – Железный век. **14.50** Шесть королев Генриха VIII. **15.40** Рим: первая сверхдержава. **16.35** Боевые корабли. **17.25** Николай и Александра: последние монархи России. **18.25, 19.25** Коварная Земля. **20.20** Настоящая игра престолов. **21.10** Елизавета I и ее враги. **22.00, 0.55** Лучшие убийцы древних времён. **23.55** История оружия.

**NATURE**

**6.00, 6.50, 7.35, 8.25** Спасители котят. **9.15, 9.40, 10.05, 10.30** Пол О'Грэди: из любви к собакам. **10.55** Ветеринар на холме. **11.45, 12.15, 12.40, 13.10, 13.40, 14.10, 14.40, 15.10, 15.40, 16.10** Уличный ветеринар. **16.40** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **17.30, 18.20, 19.05, 19.55** Приключения китов с Найджелом Марвеном. **20.40, 21.40, 22.40** Волшебная страна Оз. **23.40, 0.05, 0.35, 1.00** Природа в кадре. **1.25, 2.15, 3.05** Суперветеринар. **3.55, 4.45** Тайная жизнь зоопарка. **5.35** Лучшие друзья собаки.

**NATIONAL GEOGRAPHIC**

**6.00** Научные глупости. **6.15** Чудеса инженерии. **7.05** Инстинкт выживания. **7.50, 11.45** Суперкар со свалки. **8.40, 9.25** Короли рыбалки. **10.10, 10.35, 11.00, 11.20, 5.10** Игры разума. **12.30, 13.15** Настоящий суперкар. **14.00** Расследования авиакатастроф. **14.50, 19.50, 0.05** Диана: Утерянные кадры. **16.40, 17.30, 18.15** Путешествия с Гордоном Рамзи. **19.00, 23.20** Погребенные секреты Второй мировой войны. **21.45, 22.30** Осушить океан. **2.00** Секретные материалы древности. **2.50, 3.35** Злоключения за границей: Преступление и наказание. **4.20** Неизвестная планета земля. **5.35** Код опасности.

**ОХОТА И РЫБАЛКА**

**6.00, 22.50** Какая дичь! **6.15, 23.05** Охота в Новом Свете. **6.40, 0.10** Профессиональная рыболовная лига 2018. **6.55, 12.05, 18.10** Рыболовные путешествия. **7.50, 13.00, 19.05, 1.10** Рецепты старого Тифлиса. **8.10, 14.45, 19.50, 2.25** Я и моя собака. **8.35, 20.20** Поймать лосося. **9.05** На рыбалку с охотой. **9.40, 16.10, 21.15, 3.45** Оружие для ОХОТЫ. **10.10, 21.45** Нож-помощник. **10.20, 22.00** Охотничьи собаки. **10.50, 22.30** Кодекс охотника. **11.10, 17.40, 1.30, 5.05** Беларусь: в поисках хорошего клева. **11.35, 19.20, 1.55, 5.35** Блондинка на охоте. **13.15** Фишермания. **13.45** Рыбалка 360. **14.15** Рыбалка в России. **15.15, 2.50** Практическая школа нахлыста. **15.45, 20.45, 3.15** Рыбалка сегодня XL. **16.40, 4.10** Карпфишинг. **17.10, 4.35** Водоемы России. Рыбинское водохранилище. **23.35** Секреты «трудных» водоемов. **0.25** Экстремальная рыбалка с Робсоном Грином.

**УСАДЬБА**

**6.00, 14.10, 18.20, 22.30, 2.25** Легендарные братья-пекари. **6.45, 10.50, 15.00, 19.10, 23.20, 3.10** Мультиварка. **7.00, 15.15, 19.25, 23.35, 3.25** 10 самых больших ошибок. **7.30, 11.35, 15.45, 19.55, 0.05, 3.50** Урожай на столе. **8.00, 12.10, 16.20, 20.25, 0.35, 4.20** Преданья старины глубокой. **8.30, 12.40, 16.45, 20.55, 1.00, 4.50** Садовый доктор. **8.45, 12.55, 17.00, 21.10, 1.15, 5.05** Тихая моя родина. **9.20, 13.25, 17.35, 21.45, 1.45** Полное лукошко. **9.35, 13.40, 17.50, 1.55, 5.35** Фитоаптека. **10.05** Деревянных дел мастер. **11.10** Огород от-кутюр. **22.00** Дело в отделке.

## Беларусь 1

**6.45** Х/ф **«БЕГЛЯНКА».**
**8.20** «Клуб редакторов».
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.40** «Истории спасения».
**10.15** «Все за стол!».
**11.00** Х/ф **«БРЭСТ. ТЫСЯЧАГАДОВЫ РУБЕЖ».**
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** «Маршрут построен».
**13.10** Х/ф **«ТРИ ДНЯ НА ЛЮБОВЬ».**
**15.15** «Твой город».
**15.30** «Вокруг планеты».
**16.15** Х/ф **«НАРИСОВАННОЕ СЧАСТЬЕ».**
**19.40** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.
**20.40** Навіны надвор'я.
**21.00** «Главный эфир».
**22.10** Х/ф **«РОДСТВЕННЫЕ СВЯЗИ».**

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«СТОМАТОЛОГ».**
**8.35, 19.55** «Телебарометр».
**8.40** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**
**9.30** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.
**10.25** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.
**11.20** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР: ГЕНЕЗИС».**
**13.20** Х/ф **«ДОБРОЕ УТРО».**
**15.10** «Когда мы дома». Скетчком.
**16.10** «Папа попал». Реалити-шоу.
**17.55** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.
**20.30, 21.15** «Обмен женами». Реалити-шоу.
**21.10** «Спортлото 5 из 36», КЕНО.
**21.55** «Третий лишний». Реалити-шоу [СТ].
**22.55** Х/ф **«ЭКАПАЖ».**

## Беларусь 3

**7.45** «Гэты дзень».
**7.50** «Правілы геймера». Мастацкі фільм [СТ].
**9.40** «Наперад у мінулае».
**10.05** Прэм'ера. «Свaімі словамі». Тэлевіктарына.
**10.45** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.40, 19.40** Навіны культуры. Спецыяльны выпуск.
**12.00** Урачыстае адкрыццё Дня беларускага пісьменства «Зямля мая беларуская». Прамая трансляцыя.
**13.45** «Анастасія Слуцкая». Мастацкі фільм [СТ].
**15.15** «Вялікі перапынак». Мастацкі фільм.
**20.00** «Калыханка».
**22.20** «Пасля кірмашу». Мастацкі фільм [СТ].

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».
**7.45** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**8.40** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** Х/ф **«ФОРМУЛА СЧАСТЬЯ».**
**11.10** «Видели видео?».
**13.25** Премьера. «Ледниковый период. Дети». Гала-концерт.
**15.00** «Точь-в-точь».
**16.20** «Точь-в-точь» Продолжение.
**18.20** «Эксклюзив» с Дмитрием Борисовым.
**20.00** «Контуры».
**21.05** Х/ф **«ДОМ НА ОБОЧИНЕ».**
**23.00** ОНТ представляет: «Спортклуб»(16+).
**23.20** «КВН». Премьер-лига.

## СТВ

**6.10** «Странное дело».
**7.50, 18.10** Документальный спецпроект.
**9.15** «Минтранс».
**10.10** «Добро пожаловаться».
**10.40** «Большой город».
**11.15, 13.40** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**16.40** СТВ представляет: Фінал Рэспубліканскага творчага конкурсу юных чытальнікаў «Жывая класіка».
**19.30** «Неделя».
**20.35** «Засекреченные списки».
**22.55** Т/с **«ОХОТНИКИ ЗА КАРАВАНАМИ».**
**2.00** ПРЕМЬЕРА. «Анекдот-шоу с Вадимом Галыгиным».

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».
**6.10** «Беларусь сегодня».
**6.40** Мультфильмы.
**6.55** «Знаем русский».
**7.50** «Культ/туризм».
**8.20** «Еще дешевле».
**8.55** «Всемирные игры разума».
**9.25** «ФазендаЛайф». Премьера!!!
**10.00, 16.00** Новости.
**10.15** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. КРАСНЫЙ ПЕСОК».**
**11.50** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. ГОД СОРОК ПЕРВЫЙ».**
**14.50, 16.15** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. ЗА ПОРОГОМ ПОБЕДЫ».**
**18.10, 19.30** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. СОЛЕНЫЙ ВЕТЕР».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**22.00, 1.00** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. НА ДАЛЬНЕМ ПОГРАНИЧЬЕ».**
**1.50** «Наше кино. История большой любви».
**2.40** «Любимые актеры 2.0».
**3.05** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. МЫ НАШ, МЫ НОВЫЙ...».**
**5.25** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. МИРНОЕ ЛЕТО 21-ГО ГОДА».**

## НТВ-Беларусь

**6.20** «Астропрогноз».
**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.55** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.
**7.30** Их нравы.
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.40** «Однажды...».
**9.20** «Кто в доме хозяин?».
**10.25** «Первая передача».
**11.00** «Чудо техники».
**11.55** «Дачный ответ».
**13.00** «НашПотребНадзор».
**14.00** Х/ф **«ДОЖИВЕМ ДО ПОНЕДЕЛЬНИКА».**
**16.25** «Следствие вели...».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.05** «Звезды сошлись».
**21.30** Ты не поверишь!
**22.35** Беларусы.
**23.05** Х/ф **«ПОЦЕЛУЙ В ГОЛОВУ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ЦЕНА ЛЮБВИ».**
**10.30** «Смехопанорама».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.20** «Сто к одному».
**12.15** «Утренняя почта».
**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».
**14.00** Д/ф «ФЕСТИВАЛЬ «АЛИНА».
**15.10** Х/ф **«ПЛАСТМАССОВАЯ КОРОЛЕВА».**
**17.50, 21.45** Х/ф **«ЗОЛОТАЯ ОСЕНЬ».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**23.00** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.05** Люди в чёрном 3. **8.35** Район №9. **11.10** Братья Гримм. **13.35** Двухсотлетний человек. **16.10** Мой мальчик. **20.10** Иллюзия обмана. **22.25** Дьявол и Дэниэл Уэбстер. **0.25** Джульетта. **2.15** Синяя бездна. **3.45** Код Да Винчи.

### TV1000 ACTION

**7.20** Человек-паук 2. **10.05** Эверли. **11.45** Сезон убийц. **13.25** Страховщик. **15.30** Мачете убивает. **17.30** 13-й Район: Ультиматум. **19.25** Заложница 2. **21.10** Человек-Паук 3. **23.50** Эксперимент «Офис». **1.30** Универсальный солдат. **3.15** Ю-571. **5.10** Санктум.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.40** День выборов 2. **10.05** Белая птица с чёрной отметиной. **12.00** Затмение. **13.50** Как я стал русским. **15.35** Тариф Новогодний. **17.15** Первый после бога. **19.10** Одноклассницы. **20.45, 5.30** Со дна вершины. **22.50** Училка. **3.45** Пациенты.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.45, 11.30, 12.30** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 13.30** Х/ф **«ТЁМНАЯ БАШНЯ». 15.15** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ МИЛЯ». 19.00** Х/ф **«ЗНАКОМЬТЕСЬ: ДЖО БЛЭК». 22.45** Х/ф **«12 ОБЕЗЬЯН». 1.15** Х/ф **«НАЧАЛО». 4.00, 4.30, 5.00, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ЗА ВСЕ ТЕБЯ БЛАГОДАРЮ 2». 12.00, 13.00** Т/с **«ЖУКОВ». 14.00, 15.00** Т/с **«МАМА – ДЕТЕКТИВ». 20.00, 21.00** Т/с **«Я ТЕБЯ НИКОМУ НЕ ОТДАМ». 22.00, 23.00** Т/с **«СПАСИТЕ НАШИ ДУШИ». 2.00, 3.00** Т/с **«ПЕТЕРБУРГСКИЕ ТАЙНЫ». 4.00, 5.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 6.00, 7.00** Т/с **«ПРИИСК 2».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.00** Х/ф **«ЗАЧЕТНЫЙ ПРЕПОД 3». 2.10** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА». 4.00** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ». 6.05** Х/ф **«ДИКАЯ ШТУЧКА». 8.00** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ». 9.50** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ». 11.40** Х/ф **«ИЗ ЖИЗНИ ТАЙНЫХ АГЕНТОВ». 13.25** Х/ф **«КОРОЛЬ ВЕЧЕРИНОК». 15.15** Х/ф **«БЕЛЫЕ ЦЫПОЧКИ». 17.20** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА». 19.30** Х/ф **«БЕЗУМНЫЕ СОСЕДИ». 21.10** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКАЯ НОЧЬ В БАРСЕЛОНЕ». 23.10** Х/ф **«НЕПРАВИЛЬНЫЕ КОПЫ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.40, 1.40, 2.35, 4.00, 5.00, 5.55** Х/ф **«БАЛАБОЛ 2». 7.00, 7.55, 8.55, 9.55** Х/ф **«ЛИШНИЙ». 10.55, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 15.55, 17.00, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 21.50** Х/ф **«ИНКВИЗИТОР». 22.55, 23.50** Х/ф **«РИВЬЕРА».**

### ВТВ

**6.00, 6.55, 8.15, 11.30, 12.10, 15.35, 17.55, 21.15, 22.45, 23.50** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 4.15** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **9.20** Мультфильмы «МАРИН И ЕГО ДРУЗЬЯ». **9.45** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **10.05** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.35** Скетч-шоу «ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!». **11.35** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.15** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.40** Travel-шоу «РУССО ТУРИСТО». **15.40** Х/ф **«СЕМЬ ЖИЗНЕЙ». 18.00** Х/ф **«МОНСТРЫ НА КАНИКУЛАХ». 19.40** Х/ф **«МОНСТРЫ НА КАНИКУЛАХ 2». 21.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.50** «КВН. ПА-НАШАМУ». **23.55** Т/с **«ЛОНДОНГРАД». 1.45** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **2.15** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **3.05** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **5.00** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Легкая атлетика. Чемпионат Беларуси. **9.30** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Сити – Брайтон. **11.25** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. **13.20** Дзюдо. Чемпионат мира. Полуфиналы. Финалы. **15.30** Спорт-микс. **15.40** Легенды мирового спорта. **16.15** Тренировочный день. **16.50** Спорт-центр. **19.10** Питстоп. **19.40** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. ФК Минск – БАТЭ (Борисов). В перерыве – Спорт-центр. **21.30** Волейбол. Чемпионат Европы. Женщины. 1/8 финала. **23.20** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **0.05** Итоги недели.

### EUROSPORT

**0.00, 2.15, 4.00, 6.00, 7.00, 9.30, 10.30, 14.20** Теннис. US Open. Шестой день. **2.00, 22.00** Теннис. «Гейм, Шетт и Матс». **8.00, 11.30, 15.00** Велоспорт. «Вуэльта». 8-й этап. **11.55** Маунтинбайк. Чемпионат мира. Канада. **13.20** Автогонки. Суперкубок Porsche. Бельгия. **15.50** Велоспорт. «Вуэльта». 9-й этап. **18.45** Велоспорт. «Вуэльта»-экстра. **19.05, 20.00, 22.15** Теннис. US Open. Седьмой день.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.00** 112 Пожарные в действии. **6.45, 10.30, 13.00, 16.20, 19.25, 0.15, 1.40, 4.10** Итоговые новости. **7.45, 18.25** 9 злобных водителей. **8.15, 19.00** Народный тест драйв. **8.45** Автодрайв 2019. **9.15, 9.30, 1.55, 2.10** Мир танков. **9.45, 2.25** Вечер с Пикуленко. **10.45, 3.05** Советы юриста. **11.25, 11.50, 19.45, 22.45, 23.10, 4.25** Гаражная команда. **12.15, 20.30, 23.35, 4.50** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **12.40, 21.00, 0.00, 5.15** Школа внедорожного вождения. **13.10, 1.25** Тайный покупатель. **13.25** Вторичка. **13.40** Все включено. **13.55, 3.45** Испытание на прочность. **14.25** Это Родина твоя. **14.50** Сити тестер. **15.20, 21.15, 5.30** В поисках мотоприключений. **15.55, 21.45** Кузовной ремонт. **16.35, 22.15** Авто: вторые руки. **16.50, 17.40** Стальные парни. **22.30** Хорошо забытое. **0.30** Тест на «Драйве». **0.55** Комплектация.

### EXPLORE

**6.05, 6.25, 6.55, 7.20** Битва за карпов. **7.45, 8.35** Чудовищный карп. **9.25, 10.10** Большое рыболовное состязание. **11.00, 11.25, 11.50, 12.15, 12.40, 13.05, 13.30, 13.55, 14.20, 14.45, 15.10, 15.35, 16.00, 16.25** Виртуозы резьбы по дереву. **16.50, 17.15, 17.45, 18.10, 20.10** Гараж: Последний приют. **18.35, 19.20** Бойня. **20.30, 21.20, 22.10, 22.55, 23.45** Ковбои ледяных вод. **0.35, 1.20, 2.05, 2.55, 3.40, 4.25, 5.10** Великий дикий Север.

### HISTORY

**6.30** Невероятные изобретения. **7.15, 8.10, 4.00, 4.50** Музейные тайны. **9.00, 9.55** Тайны британских замков. **10.45** Вулканическая одиссея. **11.45** Взрывная Земля. **12.45, 13.45, 14.50, 15.55, 16.55, 18.00** Вторая мировая в цвете. **19.05, 19.30, 20.00, 20.25** Родовые проклятья. **20.55** Безумцы с «Батавии». **22.00, 23.00** Важнейшие события Второй мировой войны в цвете. **0.05** Нацистская наука. **1.05** Иудея и Рим: фатальный конфликт. **2.10, 3.05, 5.45** Запретная история.

### NATURE

**6.00, 6.25, 6.55, 7.20, 7.45, 1.55, 2.20, 2.45, 3.10, 3.35** Соединенные Штаты Животных. **8.15, 8.40, 9.10, 9.35** Уличный ветеринар. **10.05, 10.55** День из жизни Земли. **11.50, 12.50, 13.50** Волшебная страна Оз. **14.50, 15.45, 16.40** Экватор: линия жизни. **17.35, 18.25, 19.15** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **20.05** Экспедиция в Европу. **21.00** Неукротимая Румыния. **21.50** Дикая Швейцария. **22.45, 23.35, 0.20, 1.10** Дикие штучки с Домиником Монаганом. **4.00, 4.25, 4.50, 5.15, 5.35** Путешествие по паркам.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.25, 6.50** Научные глупости. **7.15** Чудеса инженерии. **8.05** Инстинкт выживания. **8.55, 12.45** Суперкар со свалки. **9.40, 10.25** Короли рыбалки. **11.15, 11.35, 12.00, 12.25, 5.10, 5.35** Игры разума. **13.30, 14.15** Авто-SOS. **15.00, 15.45** Египет с высоты птичьего полета. **16.35** Внутри невероятной механики. **17.20** «Фри-соло». **19.00, 22.10, 2.50, 3.35** Осушить океан. **19.45, 20.35, 21.25** Путешествия с Гордоном Рамзи. **23.00, 23.45, 0.30** Служба безопасности аэропорта: Перу. **1.15, 2.00** Авто – SOS. **4.20** Неизвестная планета земля.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.30** Фишермания. **6.25, 23.00** Рыбалка 360. **6.55, 12.00, 0.15** Рыболовные путешествия. **7.50, 12.55, 18.40** Рецепты старого Тифлиса. **8.05, 14.25, 19.30, 2.20** Я и моя собака. **8.35, 20.00** Практическая школа нахлыста. **9.05, 20.30, 3.15** Рыбалка сегодня XL. **9.35, 15.55, 21.00, 3.45** Оружие для ОХОТЫ. **10.00, 21.30** Карпфишинг. **10.30** Водоемы России. Рыбинское водохранилище. **11.05, 17.25, 1.15, 5.05** Беларусь: в поисках хорошего клева. **11.30, 19.00, 1.40, 5.35** Блондинка на охоте. **13.10** Какая дичь! **13.25** Охота в Новом Свете. **13.55** Секреты «трудных» водоемов. **14.55, 2.50** Поймать лосося. **15.25** На рыбалку с охотой. **16.25, 4.10** Нож-помощник. **16.40, 4.25** Охотничьи собаки. **17.10, 4.50** Кодекс охотника. **17.55** Поймать монстра. **22.00** Водоемы России. Рыбинское водохранилище. Дарвинский заповедник. **23.30** Рыбалка в России. **23.55** Дед Мазай и зайцы. **2.05** Кухня с Сержем Марковичем.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.50, 13.55, 18.05, 22.15, 2.15** Легендарные братья-пекари. **6.45, 10.35, 14.45, 18.55, 23.05, 3.00** Мультиварка. **7.00, 10.55, 15.05, 19.10, 3.15** 10 самых больших ошибок. **7.30, 11.25, 15.30, 19.40, 23.50, 3.40** Урожай на столе. **8.00, 11.55, 16.05, 20.10, 0.25, 4.10** Преданья старины глубокой. **8.30, 16.50, 21.00, 1.05, 4.50** Тихая моя родина. **9.00, 13.10, 17.20, 21.30, 1.35, 5.20** Полное лукошко. **9.20, 13.30, 1.45** Фитоаптека. **12.25, 16.35, 20.40, 0.50, 4.35** Садовый доктор. **12.40** Огород круглый год. **17.35, 5.35** Дело в отделке. **21.45** Милости просим. **23.20** Огород круглый год.

# Шанаваў усё вясковае, бо спазнаў сялянскае жыццё

## Да 95-годдзя Вячаслава Ляшковіча

МАЛАДЗЕЧНА

**Не скажу, што надта верыў у ідэалы тых часоў. Але даволі часта даводзілася бываць у гарадскім і раённым камітэтах кампартыі Беларусі. Якраз да таго часу, пакуль мне там не сказалі: «Вы аддаяце сабе адказнасць, дзе знаходзіцеся?»**

### Адзіны чалавек у райкаме партыі, з кім можна было размаўляць па-беларуску

Адзіным чалавекам, з кім мог пагутарыць на беларускай мове ці проста зайсці ў яго прасторны кабінет, быў другі сакратар райкама партыі **Вячаслаў Антонавіч Ляшковіч**.

Добра ведаў яго дачку **Вольгу** па народным ансамблі песні і танца «Спадчына». Яна там танцавала. А мне давялося іграць на цымбалах у аркестравай групе.

Мы з Вячаславам Антонавічам неяк адразу пасябравалі, хоць розніца ва ўзросце была 20 год. Можа таму, што я паважаў усё наша беларускае. А Ляшковіч шанаваў усё вясковае, бо з дзяцінства спазнаў сялянскае жыццё.

Нарадзіўся ён у вёсцы Лесніќі, што на Лагойшчыне, 24 жніўня 1924 года.

### Родныя атрымалі памылковую пахаванку

У 1942 годзе, дадаўшы сабе адзін год, ён добраахвотнікам пайшоў абараняць Айчыну. Да апошніх дзён вайны змагаўся з ворагам. Ваяваў простым салдатам пяхоты, радавым аўтаматчыкам. Некалькі разоў быў цяжка паранены. Але лёсам было наканавана дажыць да Перамогі.

У 1943 годзе яго родныя атрымалі пахаванку з паведамленнем, што Вячаслаў Ляшковіч загінуў у баі пад Ленінградам. Але гэта была памылка.

Шмат мне расказваў Вячаслаў Антонавіч пра блакадны Ленінград. У верасні 1941-га тут было два мільёны 877 тысяч жыхароў. І сярод іх 400 тысяч дзяцей. Дарога жыцця праз Ладагу выратавала жыцці мільёнам ленінградцаў. Трэскаўся лёд, машыны з людзьмі правальваліся ў ледзяную ваду. Страшэнны абстрэл з паветра, голад, хваробы…

Усе, хто мог, нават дзеці, паўсталі на абарону свайго горада. Дзяжурылі на дахах дамоў, гасілі фугаскі, дапамагалі адзін аднаму выжываць. Норма блакаднага хлеба строга па картках была 250 грамаў на дарослага і 125 – на дзіця.

Пасля вайны штогод 8 верасня Вячаслаў Антонавіч стараўся наведваць Ленінград, каб сустрэцца з баявымі сябрамі. Бываў на Піскароўскіх могілках, каб аддаць даніну павагі гораду, які не скарыўся ворагу, выстаяў 900 блакадных дзён.

### Усе казалі пра кампартыю, і ніхто – пра аўтара выставы

Працуючы выкладчыкам дзіцячай музычнай школы ў канцы 1970-х гадоў, я зразумеў, што адных цымбалаў мне ўжо мала. З'явілася ідэя зрабіць у фае школы выставачную залу. Мяне падтрымалі маладзечанскія мастакі і дырэкцыя.

«Квітней, родная Беларусь!» – мая першая тэматычная выстава, прысвечаная 60-годдзю БССР у 1978 годзе. 60 рамак вялізных памераў пад шклом з рэпрадукцыямі фотаздымкаў, тэкстамі. Па асобныя дакументы даводзілася ездзіць у музеі Мінска.

У музеі Вялікай Айчыннай вайны доўга шукаў і знайшоў пад шклом групу партызан на партыйным сходзе, дзе быў і дырэктар нашай музычнай школы, удзельнік Другой сусветнай вайны **Міхаіл Варонін**.

Каб зрабіць выставу, свой дом ператварыў у фоталабараторыю. У ход ішлі сотні вялізных лістоў фотапаперы, вёдры хімрэактываў, два глянцавальнікі. І ўсё гэта за кошт нашага сямейнага бюджэту.

Тэкстаў плоскімі плакатнымі пёрамі гуашшу мной было напісана столькі, што звычайнай ручкай давялося пісаць некалькі тыдняў. Але гэта была маладосць. Ніхто тады з нас не думаў пра нейкую аплату. Даражэй за ўсё былі павага і шчырая ўдзячнасць людзей.

Усе выступоўцы казалі пра кіруючую ролю кампартыі ў развіцці рэспублікі. І ніхто з іх не ўспомніў мяне, звычайнага беспартыйнага цымбаліста, аўтара і выканаўцу экспазіцыі.

Вячаслаў Ляшковіч.

Вячаслаў Ляшковіч па-бацькоўску шчыра абняў мяне і выказаў цёплыя словы за багаты матэрыял, які мне ўдалося сабраць. Гэта быў пачатак нашага сапраўднага творчага сяброўства, якое доўжылася амаль два дзесяцігоддзі.

Школьная выставачная зала стала лічыцца гарадской. І выставы пайшлі адна за адной.

### Пра маладзечанскую творчую суполку ведалі ў Мінску

Тут мы адзначылі 90-годдзе з дня нараджэння **Максіма Багдановіча**. Рэжысуру і адбор твораў узяў на сябе **Юрась Герасіменка**. На свяце было шмат гасцей са сталіцы. Сярод іх мастакі **Мікола Селяшчук**, **Яўген Кулік**, **Алесь Марачкін**, **Яўген Шунейка**, мастацтвазнаўца **Тамара Гранская**.

На вечарыне ў Маладзечне стварылася суполка творчых людзей – гісторыкаў, паэтаў, мастакоў, музыкантаў, пра якую пачалі гаварыць у Мінску.

Аднойчы прыйшоў да мяне ў клас Вячаслаў Ляшковіч і кажа:

– Слухай, Юрась, вясной у Ракуцёўшчыне адкрыццё мемарыяльнага каменя Максіму Багдановічу і закладка Максімава сада. Давай правядзём першае свята паэзіі.

Прадумалі ўсё. Дапамаглі Красненскі сельсавет і мясцовы Дом культуры. Заўсёды мы маглі разлічваць на дапамогу загадчыка аддзела культуры райвыканкама **Івана Пяткевіча**.

Паэты, пісьменнікі са сталіцы, выканаўцы горада і раёна зладзілі свята, якое стала традыцыйным.

На наступны год – 100-годдзе з дня нараджэння Купалы і Коласа. У Вязыньцы праходзіла рэспубліканскае свята паэзіі. А мы з Вячаславам Ляшковічам правялі маленькае свята ў Яхімоўшчыне, дзе Купала працаваў на бровары. Выступілі спявачка **Вера Васільчанка**, піяніст **Сяргей Шпадарук**, скрыпач **Роберт Целяпнёў**, фальклорны гурт «Маркаўчанка». Прагучалі ў гэты вечар і мае цымбалы.

### Усюды жаданы госць

У 1982 годзе наведалі Кушляны. Кіраўнік экспедыцыі Вячаслаў Ляшковіч усюды быў жаданым госцем.

У Жупранах наведалі мясціны Францішка Багушэвіча. З прадмовамі выступілі **Генадзь Каханоўскі** і **Мікола Ермаловіч**.

Каля хаты ў Кушлянах пасадзілі дубок, прывезены з Вязынкі, наведалі мемарыяльны камень Мацея Бурачка. Камерны аркестр рускіх народных інструментаў пад кіраўніцтвам **Рыгора Сарокі** выступіў у кушлянскім клубе.

Такім неабыякавым чалавекам, патрыётам быў Вячаслаў Ляшковіч. Хоць сціплы камень з мемарыяльнай дошкай, але паставіць, каб захаваць памяць пра людзей, якіх ён так любіў. А яны любілі яго.

У 1997 годзе Вячаслава Ляшковіча не стала. Быў перыяд самай квецені, і здавалася, уся прырода Маладзечаншчыны прынесла кветкі гэтаму сціпламу і таленавітаму чалавеку.

**Юрась ЦЕРАБУН, Маладзечна.**

● КАЛЯНДАР

**23 ЖНІЎНЯ**

**1939.** У Маскве падпісаны дагавор аб ненападзенні паміж Германіяй і СССР – пакт Молатава-Рыбентропа. У тайным пратаколе да яго зацверджаны падзел Усходняй Еўропы.

**24 ЖНІЎНЯ**

**1906.** У фальварку Баўдыры, цяпер Смаргонскі раён, нарадзіўся **Юльян Саковіч**, беларускі грамадска-палітычны дзеяч. Адзін з кіраўнікоў канспірацыйнай Беларускай незалежніцкай партыі і кіраўнік Беларускай Народнай Грамады. Забіты польскімі падпольшчыкамі 13 чэрвеня 1943 года. Пахаваны ў Лідзе.

**25 ЖНІЎНЯ**

**1991.** Прыпыненая дзейнасць КПБ. Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі нададзеная сіла канстытуцыйнага закона.

**26 ЖНІЎНЯ**

**1962.** У Маркаве Маладзечанскага раёна нарадзілася **Таццяна Сапач (Дубавец)**, беларуская паэтка, журналістка і перакладчыца. Скончыла сярэднюю школу ў Маркаве. Аўтарка двух паэтычных зборнікаў «Восень» (1991) і «Няхай не пакіне нас восень» (2008). Ад 1987 да 1990 года жыла з сям'ёй у Маладзечне. Ад 1990 – у Вільні. Працавала на Літоўскім тэлебачанні, вяла беларускамоўную перадачу «Віленскі сшытак». Трагічна загінула ў аўтакатастрофе 27 снежня 2010 года. Пахаваная ў Маркаве.

**27 ЖНІЎНЯ**

**1920.** У часе польска-савецкай вайны бальшавікі, якія ўцякалі пасля прайгранай Варшаўскай бітвы, перадалі Літве Вільню.

**28 ЖНІЎНЯ**

**1915.** Нарадзіўся **Часлаў Найдзюк**, беларускі грамадскі дзеяч. У час Другой сусветнай вайны быў старшынёй акруговага міравога суда ў Вілейцы.

**1919.** У Вільні адкрыты ўніверсітэт Стэфана Баторыя.

**29 ЖНІЎНЯ**

1974. Авіякатастрофа ля Ружанаў Пружанскага раёна. У выніку сутыкнення двух верталётаў МІ загінулі шэсць чалавек.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Не вешаюць фіранак на вокны, жэняцца не раней за 30

## Сорак фактаў пра немцаў і Германію

**Хутка 1 верасня. Большасць дзяцей рэгіёна па традыцыі пойдуць у школу з букетамі кветак. А вось школьнікі Германіі замест звыклых для нас гладыёлусаў бяруць пакунак з ласункамі і цацкамі. Хочаце даведацца яшчэ некалькі цікавых фактаў пра немцаў і Германію? Чытайце і параўноўвайце.**

1. Немцы любяць адзначаць святы па-за сценамі свайго дома. Напрыклад, у кавярні, рэстаранах, на прыродзе ці ў паездцы па іншых краінах.

2. На нямецкіх вуліцах няма платоў. Менавіта платоў у нашым разуменні – настолькі высокіх, каб можна было абараніць дом ад цікаўных поглядаў. У немцаў яны такія, што можна ўбачыць вуліцу і суседзяў.

3. У стандартным нямецкім доме няма фіранак на вокнах. Папулярныя дзверы і вокны са шклянымі вітражамі да падлогі, праз іх можна глядзець на тэрасу. Кажуць, калі на вокнах фіранкі, значыць, у доме жывуць не немцы.

4. Жыхары Германіі з інваліднасцю працуюць нароўні са звычайнымі людзьмі.

5. Пра нямецкую бюракратыю ўжо складаюць легенды. Усюды патрабуецца афіцыйны дакумент.

6. У нямецкай пары кожны сам за сябе плаціць, нават у рэстаране або краме.

7. Не раней за 30 год – такі пераважны ўзрост уступлення ў шлюб.

8. Немцы непатрабавальныя. Калі дома раптам не згатаваная вячэра, скандалу не будзе. А пара ахвотна паесць у кавярні або ў рэстаране.

9. Немцы свядома не вырошчваюць і не збіраюць ягады. Калі ў садзе растуць парэчкі, вішні, агрэст, то імі сілкуюцца толькі птушкі. Але гэты пункт не датычыцца клубніц. Немцы за плату збіраюць іх на спецыяльных палях.

10. Немцы любяць спаржу.

11. Шлях немца да працы штодня можа быць больш за дзвесце кіламетраў. Пры гэтым ён не думае мяняць ні месца жыхарства, ні работу.

12. Касіць траву перад домам у выхадныя дні можна не раней за восем гадзін раніцы. Да гэтага часу шумець забаронена па законе.

13. Для немцаў сабакі і кошкі, як дзеці.

14. Немцы любяць праходзіць розныя медыцынскія абследаванні.

15. Любімыя захапленні большасці немцаў – футбол і аўтамабілі.

16. Працоўная дзейнасць немцаў няспешная, але эфектыўная, праходзіць па загадзя зацверджаных планах. Як прыгадваюць людзі, якія працавалі з імі разам, немец усё робіць дакладна па тэхналогіі. І калі ў інструкцыі напісана, напрыклад, пасля пакрыцця дошкі лакам другі слой класці толькі праз гадзіну, яны так і зробяць.

17. За сабаку ў доме немцы павінны плаціць падатак.

18. Насуперак высокім цэнам на тытунёвыя вырабы, многія жыхары кураць усюды: у дамах, грамадскіх месцах, на дзіцячых пляцоўках.

19. Нямецкія цягнікі часта спазняюцца.

20. У крамах у Германіі цяжка купіць паўсалодкае чырвонае віно. Прадаюць, у асноўным, салодкае і сухое. Але піва – пад любыя перавагі.

21. У нямецкіх «Макдональдсах» рэдка можна ўбачыць чаргу.

22. Нямецкая медыцына прадстаўленая пераважна прыватнай практыкай.

23. Паслугі псіхатэрапеўтаў у Германіі карыстаюцца вялікім попытам.

24. Добры вячэрні адпачынак для немца – пасядзець з куфлем віна ці піва перад тэлевізарам. У адзіноце.

25. Выхадныя немцы часта праводзяць, падарожнічаючы на вонвагенах – дамах на колах. Для сем'яў з дзецьмі гэта неабходны транспарт.

26. Нямецкія дзеці любяць есці бульбу фры з маянэзам.

27. Калі вы будзеце купляць цыгарэты ў краме, то ў вас могуць спытаць пашпарт, а для аўтамата спатрэбіцца картка, дзе пазначаны ваш узрост.

28. Многія жыхары Германіі належаць да якога-небудзь клуба. Гэта могуць быць клубы аматараў яхт, зборшчыкаў грыбоў, рыбалкі, стральбы з лука. У кожнага клуба ёсць памяшканне для сходаў. Штомесяц трэба плаціць членскі ўнёсак і ўдзельнічаць у дзейнасці клуба.

29. У немцаў няма традыцыі сушыць бялізну на балконе. Яны выкарыстоўваюць спецыяльную сушыльную машыну або звычайную сушылку.




**Ісці ў школу на Дзень ведаў з пакункам ласункаў – даўняя традыцыя. Яна адлюстраваная на старой паштоўцы (да 1945 года) на сайце starina.ru. Надпіс перакладаецца як сардэчныя пажаданні шчасця на школьным шляху.**

30. Прастытуцыя ў краіне абсалютна легальная. Грамадзянам, старэйшым за 18 гадоў, можна наведваць публічны дом. Прадстаўніцы гэтай прафесіі атрымліваюць афіцыйнае працаўладкаванне і сацыяльны пакет.

31. У Германіі прадаўцамі часта працуюць маладыя хлопцы.

32. Калі ў суседзяў шум, то немец не будзе ўмешвацца, ён проста выкліча паліцыю.

33. Немцы прытрымліваюцца парадку ва ўсім. Яны сартуюць смецце і збіраюць усё асобна: паперу, пластмасу, шкло (падзяляючы па колеры), харчовыя адходы, вопратку і абутак.

34. Пры яздзе ў вячэрні час раварыст павінны карыстацца асвятляльнымі прыборамі, інакш яго могуць аштрафаваць.

35. У краіне дзейнічае падатак на царкву.

36. Выгульваючы сабаку, немцы ходзяць за ім з пакецікам і падбіраюць адходы жыццядзейнасці.

37. Амаль ва ўсіх нямецкіх гарадах і вёсках праводзяцца кірмашы.

38. Фабрыкі і буйныя заводы працуюць у тры змены: раніцай, днём і ўвечары. Бывае, што чалавек працуе сем дзён на тыдзень. Напрыклад, у суботу ў яго ранішняя змена, а ў нядзелю ён ужо ідзе ў начную.

39. У адпачынку немцы прачынаюцца рана. Ім такі рэжым звыклы.

40. За недакурак цыгарэты, кінуты ў неналежным месцы, могуць аштрафаваць.

**Аксана ЯРАШОНАК,**
**паводле studygerman.ru.**

# Берлін-1936: як прайшла самая неадназначная Алімпіяда для Германіі

**Немцы за ўсю гісторыю сучасных Алімпійскіх гульняў правялі дзве Алімпіяды – і адна з іх самая неадназначная для нямецкай гісторыі і спорту.**



Фота wikimedia.org

Вынікі спаборніцтваў, якія адбываліся на Берлінскім алімпійскім стадыёне.

У 1936 годзе Гульні прайшлі ў Берліне падчас існавання Трэцяга рэйха. Гітлер выкарыстаў спартыўныя спаборніцтвы як інструмент прапаганды. У той час спорт стаў часткай палітыкі. Гэта была апошняя Алімпіяда перад Другой сусветнай вайной. Наступныя Гульні прайшлі толькі праз 12 год – у 1948-м.

### Алімпіяда ў Берліне стала першай, якую трансліравалі па тэлебачанні

Берлін выйграў заяўку на правядзенне Гульняў у 1931 годзе ў Барселоне.

**Каб гульні правялі менавіта ў Берліне, а не ў Лос-Анджэлесе (амерыканскі горад таксама быў прэтэндэнтам), па загадзе Адольфа Гітлера пабудавалі новы стадыён для лёгкай атлетыкі і мноства спартыўных арэн.**

Гульні-1936 упершыню паказалі на тэлебачанні, а па радыё трансліравалі на 41 краіну. Кінарэжысёр Лені Рыфеншталь здымала Алімпійскія гульні ў Берліне, а пазней яе фільм «Алімпія» лічылі піянерам многіх тэхнік, якія сёння распаўсюджаныя ў спартыўных здымках.

### Берлін-1936 – прапагандысцкі інструмент Гітлера супраць яўрэяў

Адольф Гітлер бачыў Алімпійскія гульні як магчымасць прасоўвання свайго ўрада і ідэалаў расавай вяршыні і антысемітызму. Афіцыйная газета нацысцкай партыі, «Фёлькішыр беабахтэр», настойліва пісала, што яўрэяў нельга дапускаць да ўдзелу ў Гульнях.

Аднак Гітлеру пагражалі байкотам іншыя краіны, ён саступіў і дазволіў удзельнічаць цемнаскурым і яўрэям.

**У той жа час партыя прыбрала шыльды з надпісам «Не хочам яўрэяў» і аналагічныя лозунгі з асноўных турыстычных славутасцяў горада.**

Міністэрства ўнутраных спраў Германіі дазволіла начальніку паліцыі арыштаваць усіх цыганоў і ўтрымліваць іх у канцлагеры «Берлін-Марзан», каб «ачысціць» горад.

Нямецкі алімпійскі камітэт практычна забараніў удзельнічаць у Гульнях немцам, якія былі яўрэямі ці цыганамі. У саставе нямецкай зборнай была Хэлен Мэйер, у якой бацька быў яўрэем. Такое рашэнне камітэта азначала выключэнне са спаборніцтваў вядучых спартсменаў краіны.

Кідальнік дыска Лілі Хенох (чатырохразовая рэкардсменка свету і 10-разовы чэмпіён Германіі) і Грэтэль Бергман, якой забаранілі ўдзельнічаць праз некалькі дзён пасля таго, як яна ўстанавіла рэкорд у скачку ў вышыню.

Асобныя яўрэйскія спартсмены з шэрагу краін вырашылі байкатаваць Алімпіяду ў Берліне: паўднёва-афрыканскі Сід Кіль і амерыканцы Мілтан Грын і Норман Канерс.

### Цемнаскуры лёгкаатлет Джэсі Оўэнс стаў сімвалам Алімпіяды


Фота ap.org

Джэсі Оўэнс.

Галоўнай зоркай Алімпіяды стаў цемнаскуры амерыканец Джэсі Оўэнс. Амерыканец заваяваў чатыры залатыя медалі ў спрынце і скачках у даўжыню. Ён стаў самым паспяховым спартсменам, які спаборнічаў у Берліне, і нямецкія гледачы высока ацанілі талент атлета. Саапернікам амерыканца ў фінале эстафеты быў немец Луц Лонг, які застаўся яго сябрам да самай смерці ў 1943 годзе.

**Наконт узаемаадносінаў Джэсі Оўэнса і Адольфа Гітлера існуе нямала міфаў. Адзін з самых распаўсюджаных пра тое, што Гітлер з-за сваіх забабонаў не паціснуў руку цемнаскураму спартсмену пасля таго, як той выйграў медаль.**

Гэты міф застаўся міфам: Гітлера папрасілі не ціснуць руку кожнаму алімпійскаму чэмпіёну, таму што гэта займала час. Па адной з легенд, Гітлер і Оўэнс усё ж павіталі адзін аднаго.

Напрыклад, Альберт Шпеер пісаў, што Гітлера «моцна раздражняе шэраг перамог каляровага амерыканскага бегуна Джэсі Оўэнса».

Пасля смерці Оўэнса прэзідэнт ЗША Джымі Картэр казаў: «Ні адзін спартсмен так ярка не сімвалізаваў барацьбу з тыраніяй, беднасцю і расавым фанатызмам».

### Германія перамагла на дамашняй Алімпіядзе


Фота sechtl-vosecek.ucw.cz.

Алімпіяда ў Берліне.

Алімпіяда працягвалася ад 1 да 16 жніўня 1936 года. Усяго разыгралі 129 камплектаў медалёў у 19 відах спорту. Германія перамагла ў агульнакамандным заліку, заваяваўшы 89 медалёў, з іх 33 – залатыя. Амерыканцы, якія сталі другімі, выйгралі 24 залатыя ўзнагароды. На трэцім месцы размясцілася Італія.

Лёс герояў Алімпіяды склаўся па-рознаму. Кіраўнік алімпійскай вёскі Вольфганг Фюрстнер скончыў жыццё самагубствам праз тры дні пасля заканчэння Гульняў. Яго звольнілі з ваеннай службы за ўтойванне яўрэйскага паходжання. Польскі плывец Ілля Шрайбман і фехтавальшчык Раман Кантар загінулі ў канцэнтрацыйных лагерах.

**Большасць нямецкіх алімпійцаў адправіліся на вайну і загінулі на палях бітваў.**

Чэмпіёна па конным спорце Людвіга Стубэндорфа забілі на Усходнім фронце ў 1941 годзе. Штурхач ядра Ганс Вёльке пайшоў у паліцыі, быў злоўлены і забіты партызанамі ў 1943-м пад Хатынню.

Пасля заканчэння Алімпіяды заставалася яшчэ тры гады да пачатку вайны. Міжнародная прэса прызнала, што Германія правяла самыя паспяховыя Гульні ў гісторыі. Газета «Нью-Ёрк Таймс» заявіла, што Алімпіяда «вярнула Германію ва ўлонне нацый» і «зрабіла яе больш гуманнай».

**Пасля Другой сусветнай вайны, у 1946 годзе, Міжнародны алімпійскі камітэт прынёс публічныя прабачэнні – ён прызнаў, што ададаць Алімпійскія гульні Германіі на пачатку 1930-х было памылкай.**

**Настасся УТКІНА.**

# Чарга за юшкай была даўжэйшая, чым за хот-догамі

## На беразе Вілейскага вадасховішча зладзілі трэці «Юшка-фэст»

ВІЛЕЙКА

**17 жніўня ад раніцы да вечара на гарадскім пляжы на беразе Вілейскага вадасховішча ладзілі «Юшка-фэст».**



Нептун і яго світа прыплылі на свята.

### Не было паветранага шара, але быў аўтобус з фаст-фудам

Сёлета вілейчукі самі маглі прапаноўваць ідэі для свята.

– Цікавых ідэй было шмат, – расказала карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» старшыня таварыства «ЗОВіК» **Таццяна Цітуленка**. – Але не ўсе мы змаглі ўвасобіць.

Прапанавалі зладзіць палёт на паветраным шары. Аднак для такой ініцыятывы трэба выдзеліць пляцоўку мінімум 50 на 50 метраў. А месца на пляжы і без таго няшмат.

А вось прапанову фаст-фуда ў аўтобусе ўвасобілі.

### Вілейскі каледж наварыў 150 літраў юшкі

Перад святам публіку разагравaў калектыў Вілейскага дзяржаўнага каледжа:

– Мы пачалі са сцэнкі-легенды пра ўтварэнне Вілейкі – сумнай гісторыі пра каханне Вілляны і Сцяпана. Хлопец ператварыўся ў камень. Яго дзяўчына заплакала, а з яе слёз утварылася рака Вілія. Потым былі песні, у тым ліку і наша з вілейскім кампазітарам **Аляксандрам Высоцкім**, – распавёў Ігар Кіцікаў.

Па словах дырэктара каледжа, навучэнцы з выкладчыкамі наварылі 150 літраў юшкі.

І чарга па юшку была куды даўжэйшая за чаргу па хот-догі, заўважыў Ігар Кіцікаў. Адмыслова да фэсту ў каледжы зрабілі сувеніры – магніты і кубкі.

### Квас налівалі бясплатна толькі тым, хто прыйшоў са сваім кубкам

Старшыня Вілейскага райвыканкама **Алег Бегунец** прывітаў удзельнікаў па-беларуску.

А арганізатары адзначылі:

– Толькі вы, дарагія вілейчане, вызначылі, што фэсту быць. Мы доўгі час сумняваліся, ці варта сёлета яго праводзіць. Але вашы пытанні пра тое, калі ж будзе фэст, пераканалі, што трэба ладзіць свята.

**Сёлета арганізатары свята звярнулі асаблівую ўвагу на экалагічнасць мерапрыемства. Кожны, хто прыйшоў на свята са сваім кубкам, мог бясплатна атрымаць квас.**

11 сельсаветаў паказалі свае экалагічныя падворкі. На кожным была юшка, печыва, стравы з рыбы. Былі і свае фішкі – на ільянскім падворку варылі ракаў, на асіпавіцкім спявалі прыпеўкі.

### На роварны квэст людзі ўсё пад'язджалі і пад'язджалі

– Фэсту папярэднічаў роварны квэст, – расказала карэспандэнту Таццяна Цітуленка. – Мы чакалі, што збярэцца каля 20 чалавек. Але людзі ўсё пад'язджалі і пад'язджалі. У выніку сабралася 30. Удзельнікаў падзялілі на шэсць камандаў.



Вілейскі дзяржаўны каледж частуе юшкай.

Па словах Таццяны Цітуленкі, велаквэст ладзілі для таго, каб пазнаёміць удзельнікаў з мэтамі ўстойлівага развіцця, данесці неабходнасць здаровага ладу жыцця і роварнага руху.

Падчас квэсту ўдзельнікі ў розных месцах Вілейкі шукалі налепкі, на якіх былі пазначаныя 17 мэтаў устойлівага развіцця.

– Я задаволеная тым, як прайшоў велаквэст, ганаруся сельсаветамі, якія выдатна прадставілі свае падворкі. Станоўча выказваліся ўдзельнікі і пра майстар-клас па прыгатаванні юшкі ад навучэнцаў Вілейскага дзяржаўнага каледжа. Прыемна і тое, што ў сацсетках пакуль няма ніякіх адмоўных водгукаў. Вы ж ведаеце, як гэта часам любяць, асабліва тыя, хто нічога не робіць, – падсумавала Таццяна Цітуленка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# У вянок Еўфрасінні Полацкай. Рэцэнзія

**Трэба хоць павярхоўна ведаць гісторыю ранняга сярэднявечча Беларусі, каб разабрацца з тэкстамі паэмы Уладзіміра Цануніна «Белыя галубы над Сафіяй (у вянок Святой Прападобнай Еўфрасінні, ігуменні і княжне Полацкай)».**




Кніжку кішэннага фармату ў цвёрдай размаляванай вокладцы сёлета ў ліпені выпусціла ў свет выдавецтва «Колорград».

Уладзімір Цанунін, гісторык па прафесіі, глыбока вывучыў жыццё гераіні, каб у 188-мі чатырохрадковых слупках паказаць усю яе дзейнасць і эпоху, у якой яна жыла.

**Пра Еўфрасінню Полацкую я чытаў у празаічных творах шэрагу аўтараў, але больш узнёсла і патрыятычна пра нашу зямлячку, мне здаецца, расказаў Уладзімір Цанунін.**

Твор разбіты на дзве часткі: першая – пра жыццё Прападобнай на Радзіме і другая – пра апошні шлях на роднай зямлі і заключныя дні жыцця ў Ерусаліме. Кожная частка разбітая на асобныя вершы. (Я назваў бы іх звёнамі да вянка). Усе старонкі акаймлёныя рамкамі, што характэрна для асобных выданняў Евангелля.

Пачынаецца паэма са слоў, што «над Сафіяю Святою кружылі ў небе галубы», па акрузе ж лунала песня – «яе спяваў гусляр сляпы». І над Рубонам (старажытная назва Заходняй Дзвіны) плыў царкоўны звон. Дарэчы, і далей упамінаецца гусляр.

У звяне «Полацк» апісваецца нашэсце чужынцаў, якія знішчылі ўсё на сваім шляху. Нягледзячы на гэта, зноў «з бярвенняў выраслі хаты і гмахі вежаў-таямніц», а «Пад белых воблакаў каронай лунаў у небе белы птах». (Звяно «Зямля Крывіцкая»).

Прадславе (крывіцкае імя Еўфрасінні) ужо споўнілася 12 гадоў, а ў гэтым узросце па законах таго часу да дзяўчынак дазвалялася засылаць сватоў.

**Князёўна «таемна ў царкву з малітваю пайшла». Яе сустрэла княгіня, цётка Раманава, «і ад чужых вачэй схавала ў зарэчанскім манастыры».**

Прадслава ў думках маліла Дух Святы, каб даў ёй вытрымкі і сілы застацца «да магілы нявестаю Хрысту», таму «ад срэбра з золатам бяжыць». З благаславення ігуменні іерэй зрэзаў ёй косы. І званы «пад чыстым небам у задзвінні» ўсім паведамілі, што «Прадслава стала Еўфрасінняй!».

У Бельчыцах (левабярэжны раён Полацка, рэзідэнцыя князёў) узвышаўся сабор Святой Сафіі, пабудаваны ў сярэдзіне 11 стагоддзя, крыжы якога заўсёды зіхацелі ў паднябессі.

З чарговага верша-звяна «Мары» даведваемся, як Еўфрасіння «маліла ўсіх анёлаў начамі з думкаю адной прасіць свяцейшага дазволу жыць у Сафіі за Дзвіной».

З ведама біскупа Іллі «Сюды з манастыра з задзвіння да келлі моўчкі правялі святыя сёстры Еўфрасінню».

Тут чарніца (манашка) узяло ў руку пяро «і шчыра пачала маліцца над кожнай літарай радка». За напісаныя чарніцай кнігі «шмат адвесяць срэбра. А грыўны шчодра да адной яна раздасць, бо непатрэбна ёй гэта ў мітусні зямной».

У «Снах Еўфрасінні» гаворыцца пра тое, як «да былой Прадславы анёл прыйшоў у дзіўным сне» і прашаптаў, што «ёй наканаваны лёс тут збудаваць цакву, бо гэта жадае бачыць сам Хрыстос». Такі ж сон бачыў і ўладыка полацкі Ілля. Месца, адведзенае для храма, «Сяльцом празвалі».

*Да цэркаўкі*
*Святога Спаса*
*манашку нібыта*
*вялі.*
*Ёй землі тыя*
*з цягам часу*
*з дазволу князя*
*аддалі.*

З інтарэсам чытаецца звяно «Будоўля», з якога мы даведваемся, што такое цамянка, плінфы, галаснікі. Новы сабор «царквой Святога Спаса народ да нашых дзён заве. Легенд з таго былога часу нямала ў Полацку жыве».

**Святы горад Ерусалім сніўся Еўфрасінні кожную ноч. Шлях да яго і знаходжанне ў ім апісваецца ў другой частцы паэмы.**

Праводзіць Прападобную Еўфрасінню ў нязведаны шлях сабралася ўсё Сяльцо. У суправаджэнні брата Давыда і сястры Еўпраксіі дабіралася яна абозам і чаўнамі, і на вазах, «бо скончылася залатая восень.

**Ударылі начныя маразы». Але з дапамогай анёлаў, якія пазбавілі «ад перашкод, варожых хмар» нарэшце Прападобная дабралася «да горада яе дзіцячых мар».**

Перад тым, як трапіць у мясцовы манастыр, куды Еўфрасінню праводзілі Еўпраксія з Давыдам, яна «над вечнай цішынёй Святой Гары» гадзінамі малілася да вячэрняй зары.

Ужо ў келлі Еўфрасіння, калі «Хвароба нечаканаю навалай» «раптоўна рукі, ногі прыкавала, ды так, што не варушацца яны», зразумела, што «больш не вернецца» ў Бельчыцы.

Адпеўшы ў абіцелі Феадосія Святога памерлую Еўфрасінню, «мошчы Прападобнай Еўфрасінні» Ерусалім пакінулі назаўжды.

А вось якімі словамі заканчваецца паэма ў звяне «Пад белымі крыламі»:

*Да нашых дзён*
*Святая Еўфрасіння*
*за Беларусь нясе*
*Хрысту мальбы,*
*а над Сафіяй*
*у нябёсах сініх,*
*як сімвал веры,*
*кружаць галубы.*

**Барыс МАНЦЭВІЧ,**
**член Беларускага саюза журналістаў.**

# Маладзечанскія дынамаўцы занялі другое месца ў Кубку Салея

**Хакеісты з Маладзечна завяршылі групавы этап Кубка Салея на першым месцы. Гэта азначала, што цяпер падапечныя Дзмітрыя Краўчанкі змогуць выступіць у паўфінале.**

Паўфінал адбыўся ў Оршы з удзелам «Нёмана», «Юнацтва» і мінскага «Дынама».

### Сенсацыйна абыгралі мінскае «Дынама»

Лёсаванне вызначыла маладзечанскіх дынамаўцаў у паўфінальную пару да мінскага «Дынама». Матчы «фіналу чатырох» прайшлі 17 жніўня. Да вячэрняга дынамаўскага дэрбі згулялі «Нёман» і «Юнацтва». Сталічны клуб перамог Гродна ўсухую з лікам 0:3. А ўвечары адбылася сапраўдная сенсацыя: мінскія дынамаўцы саступілі «Дынама-Маладзечна».



Фота забяспечанае прэс-службай ХК «Дынама-Маладзечна».

Хакеісты дзякуюць заўзятарам за падтрымку. На першым плане – капітан Сяргей Шэлег.

**Хакеісты Дзмітрыя Краўчанкі былі мацнейшыя за саперніка яшчэ ў першай дзесяцімінутцы – Вячаслаў Лісічкін і Аляксандр Зубрыцкі пакаралі абарону сталічных хакеістаў за памылкі ў сваёй зоне.**

У другім перыядзе становішча мінчан стала практычна безвыходным, калі яны прапусцілі трэцюю шайбу. Але каманда Вудкрафта працягнула барацьбу і ў заключнай трэці скараціла разрыў да мінімуму – вызначыліся **Кірыл Гатавец** і **Аляксандр Паўловіч**.

Для таго каб перавесці гульню ў дадатковы час, мінчанам трэба было закінуць яшчэ раз за дзве хвіліны. Вудкрафт зняў варатара, выпусціў шостага гульца, але поспеху гэта не прынесла. На апошніх секундах матча Вячаслаў Лісічкін паразіў пустыя вароты і аформіў дубль.

**4:2** – «Дынама-Маладзечна» выйшла на «Юнацтва» у фінале Кубка Салея.

### Маладзечанцы трэці раз прайгралі ў фінале

У нядзелю, 18 жніўня, падапечныя Дзмітрыя Краўчанкі сустрэліся з чэмпіёнам краіны сталічным «Юнацтвам». Каманда **Міхаіла Захарава** захапіла перавагу ў першым перыядзе і забіла дзве хуткія шайбы. Аднак хакеісты пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Краўчанкі здолелі таксама хутка адыграць адрыў у два галы. Вызначыліся Вячаслаў Лісічкін і **Дзмітры Амбражэйчык**.

Пасля таго як гульцы з Маладзечна зраўнялі лік, пачаўся больш акуратны хакей. За два з паловай перыяды толькі гулец сталічнага клуба адзначыўся яшчэ адной шайбай. Расійскі легіянер **Максім Мальцаў** вярнуў тытул мінскага «Юнацтва», калі забіў вырашальны гол. Гульня завяршылася на карысць мінскай каманды **3:2**. Мінчане ў шосты раз заваявалі Кубак Беларусі.

Для «Дынама-Маладзечна» турнір застаецца непераадольнай мяжой – яны ў трэці раз прайграюць у фінале.



«Дынама» змяняе свой лагатып у гэтым сезоне.

### Новы лагатып і форма

У новым сезоне маладзечанскае «Дынама» зменіць лагатып і форму, як і ўсе клубы экстралігі. Гэта адбываецца таму, што федэрацыя хакея Беларусі ажыццяўляе вялікі праект па прасоўванні нацыянальнага чэмпіянату.

**Адным са значных крокаў для гэтага стаў рэбрэндынг экстралігі, у рамках якога ўсе клубы бясплатна атрымалі абноўленыя лагатыпы і дызайнерскія камплекты гульнявой формы.**

Лагатып «Дынама-Маладзечна» – гэта манаграма з літар «Д» і «М». У лагатыпе ёсць відавочныя дасылкі да класічнай літары «Д», але ў той жа час гэта зусім новы знак, які не з'яўляецца ўласнасцю таварыства «Дынама».

**Настасся УТКІНА.**

## Дзве каманды сталі прызёрамі Кубка па аматарскім футболе

Дзве маладзечанскія каманды – «Molo» і ЛСК «IBA» – занялі другое і трэцяе месцы ў Кубку па аматарскім футболе.

Розыгрыш турніру пачаўся з групавога этапу. Каманда «Molo» выступіла ў групе «А» з «САВ-Сэрвіс» (Мінск), «Дзінас» (Докшыцы), «Слодыч» (Мінск), «Timeoutclub.by» (Мінск). Другая маладзечанская каманда ЛСК «IBA» згуляла ў групе «В» з калектывамі «Віцязь» (Мінск), «Flexy» (Мінск) і «Фларыда» (Віцебск).

Па выніках групавога этапу маладзечанскія каманды занялі першыя месцы ў сваіх пулах. У паўфінал выйшлі чатыры каманды: ЛСК «IBA», «Віцязь», «САВ-Сэрвіс», «Molo».

У 1/2 плэй-оф «САВ-Сэрвіс» абыграў ЛСК «IBA», а «Molo» выйшаў у фінал у серыі пенальці з мінскім «Віцязем». У матчы за трэцяе месца маладзечанцы з ЛСК «IBA» буйна перамаглі «Віцязь». А ў гульні за залатыя медалі футбалісты з «Molo» саступілі «САВ-Сэрвіс».

Трэнер футбольнага клуба БАТЭ **Аляксей Бага** асабіста ўручыў кубкі і медалі лепшым камандам. Лепшым варатаром кубка «ЛФЛ-2019» прызнаны гулец каманды «Molo» **Аляксандр Вайда**.

## «Спадарожнік» саступіў «Смаргоні»

Смаргонскія футбалісты заваявалі трэцюю перамогу ў чэмпіянаце першай лігі. У гэту суботу «Смаргонь» гуляла з рэчыцкай камандай – 3:5. Пасля буйной перамогі смаргонцы застаюцца на перадапошнім радку ў турнірнай табліцы.

«Спадарожнік»: 75′ – **Валеры Патароча** (пенальці), 80′ – **Ігар Ясінскі**, 83′ – **Ян Сянкевіч**.

«Смаргонь»: 36′ – **Уладзімір Казко**, 50′ – **Дзмітры Харнаўцаў**, 53′ – Дзмітры Харнаўцаў, 76′ – **Сяргей Цвяцінскі**, 90+2′ – Дзмітры Харнаўцаў.

## «Маладзечна» абыграла «Клецк»

Маладзечанцы працягваюць пераможную серыю. На гэтых выхадных зялёна-белыя перамаглі на дамашнім полі клецкіх футбалістаў – 3:0. ФК «Маладзечна» знаходзіцца на трэцім месцы ў другой лізе.

«Маладзечна»: 26′ – **Ігар Талькоўскі**, 69′ – **Мікіта Дудо**, 90+1′ – **Уладзіслаў Кнацько-Штэрк**.

## «Ашмяны» мінімальна перамаглі «Андэрдог»

«Ашмяны» перамаглі «Андэрдог» на сваім полі – 1:0. Ашмянцы забілі адзін гол у першым тайме, якога хапіла для перамогі над чысцінскімі футбалістамі. «Андэрдог» займае шосты радок, а «Ашмяны-БДУФК» – на другім месцы.

«Ашмяны»: 12′ – **Дзмітры Купнеўскі**.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Сталіца Дагестана.
3. Краіна, якая стаяла ля вытокаў Рэчы Паспалітай.
4. Маладзечанская фабрыка, акцыянерам якой з'яўляецца Беларускі фонд культуры.
5. Адзіная вёска ў рэгіёне, дзе ёсць літоўскамоўная школа.
8. Працэс, які ўзнікае ў выніку ўздзеяння на арганізм шкоднага раздражняльніка, характарызуецца паніжэннем прыстасаванасці жывога арганізма да знешняга асяроддзя пры адначасовай мабілізацыі яго абарончых сіл.
13. Графічная выява музычнага гуку.
14. Гэта называюць рытмічнай гімнастыкай.
15. Джордж Бернард Шоу пісаў, што гэта самы дасканалы выраз пагарды.
17. Атрыманнем і распаўсюджваннем гэтага займаецца прэса.
18. Галоўны ўваход вялікага архітэктурнага збудавання.
20. Фестываль гэтай стравы праходзіў у Вілейцы.
21. Самыя глыбокія з іх у СССР, а, магчыма, і ў свеце, знаходзіліся ў Каракумах. Многія мелі глыбіню больш за сто метраў, а адзін – нават 270 метраў.
22. Той, хто адступае ад агульнапрынятых поглядаў, правілаў, палажэнняў.
27. Стаўленне да каго-небудзь ці да безумоўнай каштоўнасці, лучнасць і агульнасць з якой успрымаецца як дабро.
28. Жыхар Карэі.
30. Адсутнасць шуму, цішыня.
31. Сталовы прыбор.
33. Баец з Насілава, які ў 15 год стаў чэмпіёнам свету па змешаных адзінаборствах.
36. Спецыяліст па расследаванні крымінальных злачынстваў.
38. Доўгая каляровая папяровая стужка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Упарты як…
6. Паветраны флот.
7. Назва хакейнай каманды Маладзечна.
9. Чалавек, які здзяйсняе паездку на транспарце.
10. Выключнае права на што-небудзь.
11. Трэці дзень тыдня.
12. Тое, што ядуць раніцай.
16. Штучнае перарыванне цяжарнасці.
19. Горад, у якім знаходзіцца рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты».
21. Рэжучая частка халоднай зброі.
23. Пасудзіна, якую выкарыстоўваюць хімікі.
24. Яго выконваюць салдаты.
25. Малады хлопец.
26. У ВКЛ доля гэтага саслоўя складала да 12%.
27. Сур'ёзнае рознагалоссе.
29. Заключная частка чагосьці.
32. Крупы.
33. Сустаў, які злучае сцягно і галёнку.
34. Сукупнасць з'яў, якія адбываюцца ў арганізмах, адмысловая форма існавання і руху матэрыі.
35. Сукупнасць тэарэтычных пабудоў і ўяўленняў.

## Адказы на крыжаванку з №33

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Тэксталогія. 5. Астравец. 7. Запарожцы. 8. Краўчанка. 9. Міндоўг. 12. Фларыстыка. 13. Туба. 16. Мёльке. 17. Уран. 19. Турнэпс. 20. Гліна.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Тадэвуш. 3. Палута. 4. Шкло. 6. Скобля. 8. Купала. 10. Рымдзюны. 11. Харугва. 13. Трыпутнік. 14. Ферма. 15. Жэмайчу. 18. Латыгаль. 21. Іван.

## ● ГАРАСКОП НА 23-29 ЖНІЎНЯ



**АВЕН.** Тыдзень для таго, каб складаць доўгатэрміновыя планы і разважаць пра тое, што рабіць далей. Адкідайце ўсе сумневы і вызначыцеся з прыярытэтамі. Вы зразумееце, да каго можна звяртацца па дапамогу і падтрымку, а ад каго лепш трымацца далей.



**ЦЯЛЕЦ.** Тыдзень будзе поўны клопату. Вам трэба будзе займацца не толькі сваімі, але і чужымі справамі, дапамагаць тым, хто апынуўся ў складанай сітуацыі. Часта ўзнікаюць непаразуменні, і ўсе чакаюць, што вы ў іх разберацеся.



**БЛІЗНЯТЫ.** Спрыяльны тыдзень, поўны добрых ідэй і смелых планаў. Можна брацца за нешта зусім новае. Вы хутка навучыцеся ўсяму, што трэба, цяжкасці вас не спалохаюць. Верагодныя сустрэчы з людзьмі, з якімі будзе цікава мець справу.



**РАК.** Пачынайце тыдзень з простых і карысных спраў. Калі справіцеся з імі, вы адчуеце сябе значна больш упэўнена, зразумееце, што гатовыя замахнуцца на нешта большае. Спатрэбіцца досвед, атрыманы раней.



**ЛЕЎ.** Тыдзень прыносіць шмат новых ідэй. Не ўсе яны так добрыя, як здаецца спачатку. Таму не спяшайцеся ўвасабляць задуманае ў жыццё. Трэба час, каб усё абдумаць і вырашыць, з чаго пачаць.



**ДЗЕВА.** Напружаны тыдзень. Вы можаце нашкодзіць сабе, калі будзеце занадта шчырыя з людзьмі. Памятайце, што не ўсім варта давяраць, і ўжо дакладна не трэба раскрываць свае сакрэты новым знаёмым, якія б сімпатычныя яны ні былі.



**ШАЛІ.** Выдатны тыдзень, вам шмат у чым шанцуе. Варта толькі ўзяцца за нейкую справу, і становіцца ясна, што вынік не за гарамі. Вы хутка вучыцеся новаму.



**СКАРПІЁН.** Тыдзень пачынаецца добра. Першая палова падыходзіць для абмеркавання любых пытанняў, нават самых складаных. Вы не паддаяцеся на правакацыі, памятаеце аб сваіх інтарэсах, але ідзяце на ўступкі там, дзе гэта неабходна.



**СТРАЛЕЦ.** Удалым будзе пачатак тыдня. Наступіў зручны момант для таго, каб узяцца за справы, якія перш здаваліся складанымі. Вы не ўпусціце шанец змяніць сваё жыццё да лепшага. Дзейнічайце рашуча: усё атрымаецца.



**КАЗЕРОГ.** Тыдзень будзе цікавы. Не марнуйце час дарма: ёсць шанец многае зрабіць для сябе і для іншых. Паступаюць незвычайныя прапановы. Вы не пашкадуеце, калі адкажаце на іх згодай. Варта прыслухацца да інтуіцыі.



**ВАДАЛЕЙ.** Плённым будзе ўвесь тыдзень. У гэты час нават цяжкая праца не здаецца вам праблемай. Магчымыя карысныя знаёмствы, сустрэчы з людзьмі, пра якіх вы раней чулі шмат добрага.



**РЫБЫ.** Вы спрабуеце засяродзіцца на важных справах, але знаёмыя ўвесь час адцягваюць вас то пытаннямі, то парадамі, то просьбамі. Зносіны часцей раздражняюць, чым радуюць. Да канца тыдня настрой зменіцца. Варта толькі пачакаць.

Падрыхтавала
Васіліна КІРАВА.

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | | | | 3 | | | 6 | |
| 5 | | | | 7 | | | | |
| 8 | 7 | | | | | | | 1 |
| | 9 | 2 | 8 | | | 6 | | |
| | 5 | | | 9 | | | | 8 |
| | 8 | | 1 | 6 | | | 5 | |
| 4 | | | | | | 9 | 3 | |
| | 2 | | 3 | 1 | | | 4 | |
| | 3 | | 4 | | 6 | 1 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 4 | 1 | 9 | 3 | 8 | 7 | 6 | 5 |
| 5 | 6 | 3 | 2 | 7 | 1 | 8 | 9 | 4 |
| 8 | 7 | 9 | 6 | 5 | 4 | 3 | 2 | 1 |
| 1 | 9 | 2 | 8 | 4 | 5 | 6 | 7 | 3 |
| 6 | 5 | 4 | 7 | 9 | 3 | 2 | 1 | 8 |
| 3 | 8 | 7 | 1 | 6 | 2 | 4 | 5 | 9 |
| 4 | 1 | 6 | 5 | 8 | 7 | 9 | 3 | 2 |
| 7 | 2 | 8 | 3 | 1 | 9 | 5 | 4 | 6 |
| 9 | 3 | 5 | 4 | 2 | 6 | 1 | 8 | 7 |

Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


# Віляйчанка перамагла ў сусветным конкурсе

ВІЛЕЙКА

**Viridiland – своеасаблівы чэмпіянат свету па прыгажосці. Яго ладзілі ў Кіеве ў канцы мая. Гран-пры конкурсу ўзяла жыхарка Вілейкі Юлія Томкавіч.**



Здымак забяспечаны гераіняй публікацыі.

Юлія Томкавіч стварае фантазійныя пазногці на конкурсе ў Кіеве.

– Фестываль праходзіў у канцы вясны, але толькі цяпер, у жніўні, я крыху прыйшла ў сябе пасля напружанай працы і перамогі. Да таго ж ужо пасля Украіны ўдзельнічала ў падобным конкурсе ў Літве, – кажа Юлія.

У складзе каманды Беларусі была Юлія са сваёй мадэллю, таксама віляйчанкай, **Раісай Радчанкай**.

Да конкурсу пачалі рыхтавацца прыкладна за паўгода. Падбіралі патрэбныя касцюмы, прадумвалі цікавыя дэталі, стваралі непаўторны вобраз, рыхтаваліся да заявочных намінацый.

У выніку ў Кіеў паехалі з пяццю чамаданамі.

У галоўнай намінацыі (вочнай) на вачах у журы ўдзельніца з Вілейкі за дзве з паловай гадзіны стварыла пазногці экстрэмальнай даўжыні з фантазійным дызайнам, каб яны падыходзілі да прыдуманага вобразу.

У галоўнай намінацыі дзяўчына атрымала найбольшую колькасць балаў сярод усіх удзельнікаў.

– Гэты вобраз ад туфляў да кончыка кароны я прыдумала і стварыла ў Вілейцы, – падзялілася Юлія.

Другая намінацыя – гель лак у вобразе, таксама вочная. Вобраз ствараралі такі, каб ён падыходзіў да паўсядзённага жыцця жанчыны.

Трэцяя і чацвертая намінацыі былі завочныя. Для адной з іх Юлія інкруставала стразамі сумачку-клатч.

Як прызналася ўдзельніца, для інкрустацыі спатрэбілася каля пяці тысяч стразаў.

І апошняя намінацыя – гэта фотаконкурс.

– Мы, канешне, чакалі ўзнагароды. Я вельмі ўклалася ў гэты конкурс. Але не думала, што набяру найбольшую колькасць балаў сярод усіх удзельнікаў і што будзе Гран-пры, – кажа Юлія. – Таму ад нечаканасці і хвалявання не паспелі сфатаграфаваць момант узнагароджання.

Юлія Томкавіч – неаднаразовая пераможца падобных конкурсаў. Мае каля 20 перамог у краінах Еўропы і СНД. А вось на сусветных спаборніцтвы трапіла ўпершыню ў складзе каманды Алёны Смірновай.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці падтрымліваеце вы спартыўныя каманды вашага горада і якім відам спорту займаецеся самі?



**Павел Карней, рабочы, Смаргонь:**

– Я падтрымліваю ФК «Смаргонь», таму і цікаўлюся футболам.



**Андрэй Жукоўскі, станочнік дрэваапрацоўчых станкоў, Маладзечна:**

– Мне цікавыя баявыя віды спорту, бо сам займаюся. Часам гляджу і заўзею на гульнях па баскетболе, футболе ці нават валейболе. Не сачу за спортам у рэгіёне, але заўважаю нейкія навіны на тэму хакея. Заўсёды радуюць перамогі маладзечанскай каманды.



**Ягор Ярмоленка, студэнт, Вілейка:**

– Вось у нас, у Куранцы, неяк прынята цікавіцца футболам. Крыху больш за тыдзень таму ў нас адбылося свята футбола MassFootball. Яно і прымусіла зацікавіцца гэтым відам спорту. Падтрымліваю каманду «Куранец», хоць яна і не зусім часта гуляе дзе-небудзь.



**Вадзім Бабей, кіроўца, Маладзечна:**

– Люблю футбол, гуляю ў вольны час. Падтрымліваю адназначна найменную каманду нашага горада, якая выступае ў другой лізе. Гэтак жа, па магчымасці, наведваю дамашнія матчы хакейнага клуба «Дынама».



**Маргарыта Гілеўская, бібліятэкар, Маладзечна:**

– Я не падтрымліваю ніякую спартыўную каманду. І не займаюся спортам, толькі лёгкія практыкаванні раблю, якія карысныя для цела.



**Уладзіслаў Шарамецьеў, футбольны трэнер, Ашмяны:**

– Падтрымліваю каманды нашага горада. «Ашмяны-БДУФК», якія ў другой лізе, а каманда «Ашмяны», менавіта нашага горада, выступае ў чэмпіянаце Гродзенскай вобласці. Я захапляюся футболам, і з усіх відаў спорту футбол мне бліжэй за ўсё.



**Руслан Цыбоўскі, мантажнік, Смаргонь:**

– Заўзею за свой родны ФК «Смаргонь» і ФК БАТЭ Барысаў. Сам бегаю і люблю цяжкую атлетыку. Але даводзіцца шмат працаваць, таму на спорт застаецца зусім мала часу.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

## Чытайце праз тыдзень:

● У суботу ў Маладзечне ініцыятыва «Самы час» зладзіць фестываль здаровага ладу жыцця. Некалькі месяцаў арганізатары праводзілі мерапрыемствы, накіраваныя на паляпшэнне здароўя мужчын 45+. Кажуць, ёсць над чым задумацца гэтай катэгорыі.



## 24 жніўня, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 2-3 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература +2,2°C у 1999 годзе
Максімальная тэмпература +32,2°C у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 63,8 мм у 2017 годзе

Паводле meteoinfo.by.


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№34 (1269) 23.08.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1340. Падпісана ў друк у 9.00 22.08.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.